ГОД VII ЛІПЕНЬ-ЖНІВЕНЬ 1953 г. № 55

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ

## ЗЬМЕСТ






**BOŽYM ŠLACHAM**

**(SUR LA VOIE DIVINE)**

BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL

Année VII. № 55. Juillet-Août 1953

51, rue des Sts-Pères — PARIS - VI<sup>e</sup>

| Перадплата «Божым Шляхам» на 1953 г. | | |
|---|---|---|
| | За адзін нумар | На год |
| Францыя | 60 фр. | 350 фр. |
| Англія | 1 ш. 10 пэн. | 8 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 2 ш. | 10 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 50 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. 20 ц. |
| Нямеччына | 80 пф. | 5 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

Chèque Postale : Paris c. 6287 44
R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, PARIS VI°.

У АНГЛІІ:
Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.

У АРГЭНТЫНЕ:
Asociacion Bielorusa en la Argentina C. Coronel Sayos 2981.
4. de Junio, Buenos Aires.

У АЎСТРАЛІІ:
Mr. Jackievicz Donat, 60, Fisher Str. East BRISBANE. Q-ld.

У БЭЛЬГІІ:
Mr. Borysevic Vasil, 19, Place Hoover, LOUVAIN.

У НЯМЕЧЧЫНЕ: Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.

**КНІЖКІ ДА НАБЫЦЬЦЯ.**

У Беларускіх Каталіцкіх Місіях у Лёндане і Парыжы можна купіць наступныя беларускія кніжкі:

Друя В. — Ты і яна. 250 фр — 6 шыл.
а. Л. Гарошка — Душа 40 фр. — 1 шыл.
а Л. Гарошка — Паходжаньне чалавека 20 фр. — 10 пэн.
а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня — Прадслава Полацкая 150 фр.— 4 шыл.
Г-і Я. — Казкі № 2 — 30 фр. 15 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 3 30 фр. 15 пэн.
Равенскі М. Арсеньева Н. — Магутны Божа. Песня з нотамі. — 5 фр. 3 пэн.
Народная казка — Музыка і чэрці 40 фр. 1 шыл.
Сяднёў М. — Цень Я Купалы 30 фр. 15 пэн.
Каваль П. — Беларусь у датах, ліках і фактах (друг. выд.) 450 фр. — 13 шыл.
Змагар А. — Случчакі-Апавяданьне—100 фр. 2 ш.
Змагар А. — Рэпка-казка — 30 фр. 15 пэн.
Малітаўнік «Божым шляхам» 80 фр. 2 шыл.
Малітаўнік «Holas Dušy» 200 фр. 5 шыл.
Камплет часапісу «Божым шляхам» за мінулыя гады 2000 фр. — 2 ф.

**M. Bahdanovic — Weissruthenischer Heimat. Lyrik** — 50 фр. 2 шыл.

Зьвяртацца на адрасы: У Францыі:

R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, Paris VI.

У Англіі: Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.

У Нямеччыне: Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.

# З беларускае народнае мудрасьці

Дай сэрцу волю, завядзе ў няволю.

Дай, дык перад Богам знойдзеш.

Далей паложыш, бліжэй возьмеш.

Дапамог Бог зрабіць, дапаможа і спажыць.

Да пары збан ваду носіць, вушка адарвецца і збан паб'ецца.

Дармовае ўсягды прахам бярэцца. Што лёгка прыходзіць, тое лёгка з рук сыходзіць.

Дасьць Бог дзень, дасьць і дарогу. Час адчыніць ўсё.

Дасьць Бог дзеці, дасьць і на дзеці.

Даў слова — дзяжыся, а ня даў крапіся.

Да харошага ўсё прыстае.

Дзе «бадай» умяшаецца, там Бог адступаецца. Аб сварках.

Дзе баліць, там рука, а дзе міла, там вока.

Дзе гаспадар ня ходзіць, там ніўка ня родзіць.

Дзе добры край, там і пад ёлкаю рай.

Дзеля вошы кажуха ня кідаць.

Дзе няма ахвоты, там няма работы.

Дзе проста, там анёлаў со ста

Дзе серп і молат, там бяда і голад.

Дзеці балуюцца ад матчынага блінца, а разумнеюць ад бацькавага дубца.

Дзьве ня бываюць сьмерці, а раз трэба памерці.

Дзяржы язык за зубамі, калі хочаш быць з людзямі.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год VII. ЛІПЕНЬ-ЖНІВЕНЬ № 55


# Сьвятыя заступнікі беларускага народу

Ці ў хвілінах суму, ці ў хвілінах радасьці чалавеку цяжка аставацца адзінокаму — такая ўжо людзкая прырода. Не дарма з даўных давён яшчэ грэцкія філязофы назвалі чалавека грамадзкаю істотаю. Таму і шукае сабе кожны шчырых сяброў і прыяцялёў. Хто знойдзе сапраўды добрага прыяцеля — скарб знойдзе.



А каго мы называем добрым?

Людзей справядлівых, міласэрных, ахвярных, працавітых, скромных, разважных, незавідлівых, несварлівых, чыстых — вось гэта азнакі добрых людзей. І шмат ёсьць такіх, што маюць адну, дзьве, або нават некалькі з гэтых азнакаў, але толькі адзін Бог мае іх усе разам і ў найбольшай ступені, бо Ён адзіны ёсьць бесканечна дасканалы.

Тых-жа людзей, што зьбліжаюцца да Бога сваім чыстым жыцьцём, гэройскім практыкаваньнем цнотаў і рашучым супраціўленьнем усякаму злу, называем сьвятымі. Заўважма, што ў першых вякох хрысьціянства ўсе вернікі называліся сьвятымі Нажаль потым, вялікая дабрата сярод тых, што носяць імя Хрыста (хрысьціян) сталася рэдкасьцю.

Калі кінем вокам на нашу мінуўшчыну, дык ужо на самым пачатку нашае гісторыі мы ўбачым вялікія постаці — волаты духа, якія былі сапраўды вялікімі сьвятымі і якім да сёньня аддаецца чэсьць на аўтарох.

Колькі было іх?

Тых, якіх мы знаем імёны і гэраічнае жыцьцё, ёсьць ня шмат, усяго 50. Але хто-ж можа даць сёньня адказ на пытаньне: колькі на працягу тысячы гадоў было на Беларусі манастыроў і колькі ў кожным з іх было глыбокапабожных манахаў і манахінь? Колькі было сьвятых мітрапалітаў, архібіскупаў, сьвятароў, дыяканаў? А колькі было сьвятых сялян ды іншых сьвецкіх людзей? Ці які вучоны займаўся гэтым пытаньнем? А калі-б і займаўся, ці змог-бы даць на іх поўны адказ?

Ніколі ў сьвеце!

Хрыстос на тое заснаваў Сваю Царкву на зямлі, каб асьвяціць людзей і няма сумніву, што ад часу заснаваньня Царквы да нашых дзён на ўсім сьвеце нязьлічаная колькасьць людзей скарысталa з яе асьвячаючых дараў. Так як нельга пералічыць пясчынкаў на ўзьбярэжжы мора, або зорак на небе, падобна нельга пералічыць і сьвятых. Толькі як прыйдзе той час, калі Сын Чалавечы зьбярэ з усіх канцоў сьвету ўсіх людзей усіх расаў і плямёнаў на свой апошні суд, дык мейма надзею, што тады пабачым шмат сыноў і дачок беларускае краіны ў зьзяньні сьвятасьці.

Сёлета 2 жніўня адбылася ў Лёндане ўрачыстасьць пасьвячэньня Іконы Сьвятых Заступнікаў Беларускага Народу. Ікона — гэта вонкавы знак, сымбаль таго, каму аддаём чэсьць. І чэсьць якую аддаецца іконе ніколі нельга мяшаць з тым культам, богапашанаю якую аддаецца самому Богу.

Калі ўжо закранаецца справа сьвятых заступнікаў беларускага народу, дык імі не абавязкава павінны быць сьвятыя беларускага паходжаньня, бо-ж самыя беларусы, падобна як і ўсе іншыя хрысьціянскія народы сьвету заўсёды мелі і будуць мець у вялікай пашане ня толькі сьвятых сваіх суродзічаў, але агулам усіх тых, якія ўславіліся сваім пабожным жыцьцём на зямлі і сваім заступніцтвам у небе, як: прар. Ільля, сьв. Мікола Цудатворац, сьв. Зьмітро Вялікамучанік, сьв. Юры Вялікамучанік, сьв. Антоні з Падвы, сьв. Францішак з Асыжу, сьв. Вінцэсь, сьв. Тэрэса і шмат інш. У сваім заступніцтве сьвятыя не глядзяць на нацыянальнасьць тых, што да іх зьвяртаюцца, ані не абмяжоўваюць сябе дзяржаўнымі граніцамі. Дзеля гэтага і новапасьвячаная Ікона зусім ня мае на мэце абмежаваць лік сьвятых, да якіх беларусы могуць зьвяртацца, не! Думкай аўтараў новапасьвячанае Іконы было: сабраць у адно перадусім тых сьвятых, якія мелі з Беларусьсю асаблі-

выя дачыненьні. Бяз сумніву да такіх належаць: сьв. Еўфрасіня Полацкая, сьв. Казімер, сьв. Аўрам Смаленскі, сьв. Ёзафат Полацкі, сьв. Кірыла Тураўскі. Усе гэтыя сьвятыя былі зьвязаны або кроўна з беларускім народам, або працай на Беларусі. На Іконе яны займаюць ніжні рад, а ў верхнім радзе валадарна красуецца Дээзіс: Ісус Хрыстос, Багародзіца і сьв. Іван Хрысьціцель.

Беларусь ляжыць на скрыжаваньні шматлікіх дарогаў і культур. Праз яе йшлі Варагі ў Грэцыю, праз яе Баторы вёў свае войскі на Маскву, праз яе праязджалі казакі, ідучы на Варшаву, праз яе штурмавалі на Маскву францускія і нямецкія арміі і праз зе бальшавікі цiснуліся на Варшаву... Не дарма паэт казаў: «Тут схадзіліся плямёны спрэчкі сілаю канчаць».

Дзякуючы свайму геаграфічнаму палажэньню і гістарычным падзеям на Беларусі хрысьціянства было падзелена і каталіцтва было двох абрадаў. Бязумоўна кожны шчыра веруючы чалавек раскол хрысьціянства перажывае як вялікае няшчасьце, тымбольш гэта перажывае беларус, але навучаны гісторыяй і практыкай ведае, што ў рэлігійным жыцьці неабходна шанаваць пагляды іншых. У нашым адраджэнскім руху мы павінны, не зважаючы на ніякія скрыжаваньні і падзелы, сабраць усе свае сілы ў адно, каб асягнуць тую вялікую мэту, якою ёсьць сувэрэнная дзяржава. Бязумоўна нашым ідэалам ёсьць, каб у будучай незалежнай Беларусі кожны мог здаволіць усе свае лепшыя лятуценьні, а гэта магчыма толькі ў такой дзяржаве, якая апіраецца на хрысьціянскіх прынцыпах. Да адбудовы такое дзяржавы нам дапамогуць сьвятыя заступнікі беларускага народу: сьв. Еўфрасіня — патронка Беларусі і асаблівая апякунка нашых манастыроў; сьв. Казімер — ясьнеючы непавіннай чысьцінёю і ваяўнічасьцю духа супраць несправядлівасьці; сьв. Аўрам Смаленскі — суровы асцэт, але выдатны пэдагог і патрон багаслоўскае асьветы на Беларусі; сьв. Ёзафат, які праліў сваю кроў за вялікі ідэал еднасьці веры; сьв. Кірыла Тураўскі — наш залатавусны, патрон пісьменьнікаў і паэтаў — усе яны нам блізкія, усе яны нашы, усе аднолькава каталіцкія і праваслаўныя ў аўтэнтычным значэньні гэтых слоў.

На змагарным шляху да асягненьня нашае вечнае мэты і да асягненьня дачаснае мэты — мы не адзінокія! З намі нашы гэроі, нашы волаты духа, нашы сьвятыя заступнікі. Аб гэтым і мае нам прыпамінаць новапасьвячаная Ікона. Але было-б вялікім непаразуменьнем, каб іхныя імёны асталіся толькі ці то, ў мудра напісаных кнігах, ці на абразох, якімі ўпрыгожваюцца сьвятыні. Іх мейсца павінна быць перадусім у нашых сэрцах і ў нашых пачынах.

**а. Ч. Сіповіч.**

# У чым значэньне і веліч чалавека?

Пазнаць акружаючы сьвет, выясьніць сэнс прыродных зьявішчаў, уцяміць ход жыцьцёвых падзеяў — гэта вельмі важна і карысна для чалавека, але бязумоўна больш важна і больш карысна пазнаць належна самога сябе. Дык варта гэтай справе прысьвяціць належную ўвагу.

Тая жменька матэрыі, з якое складаецца людзкое цела, у параўнаньні да велічы сусьвету ёсьць блізка што нічым. Ужо параўноўваючы чалавека да велічы нашае плянэты — Зямлі, нельга назваць яго інакш, як дробнаю пылінкаю, але наша Зямля ў параўнаньні да іншых нябесных целаў сама ёсьць ня большай як пылінка. Вось што кажа аб гэтым астраномія: Сонца большае за Зямлю ў 332 тысячы разоў, а гэткіх сонцаў як наша ў сусьвеце ёсьць нязьлічаныя мільёны. Ды ці толькі гэткія? Ёсьць некаторыя, што ў тысячы, а некаторыя нават у мільёны разоў большыя за наша сонца. Напрыклад зорка альфа ў сузор'і Скарпіёна такая аграмадная, што яе дыямэтр роўны арбіце плянэты Марса; тэта значыць, што калі-б яна была пустою куляю, дык-бы ў яе нутры магло зьмясьціцца сонца са сваімі найбліжэйшымі плянэтамі: Мэркурыем, Вэнэраю, Зямлёю і Марсам і гэтыя плянэты маглі-б круціцца навокал сонца, як цяпер у вольным прасторы.

Яшчэ больш выяўляецца зьнікомасьць чалавека ў параўнаньні да прастору, які займае сусьвет. Сонца аддалена ад Зямлі на 149 мільёнаў кілямэтраў, але найбліжэйшая зорка (Цэнті Міра) аддалена ад Сонца аж на 40 більёнаў кілямэтраў. Якая гэта адлегласьць лепш сабе зможам уявіць, калі даведаемся, што сьвет, які прайходзіць у сэкунду 300.000 км. і ад сонца да нас ідзе толькі 8 мінут і 17 сэк., ад найбліжэйшае зоркі йдзе амаль чатыры з палавінаю гады. Калі так далёка знаходзіцца найбліжэйшая зорка, дык што казаць аб далёкіх! Прастор, які дзеліць іх ад нас такі аграмадны, што мераецца на мільёны сьветагадоў. У гэтым неабсяжным прасторы чалавек сапраўды губляецца як бязьмежна малая драбяза.

А якое мейсца займае чалавек у часе?

І тут чалавек ёсьць ня больш як нязначнай зьнічкай. Найбольш стараветны тэкст, пісаны людзкою рукою мае 6.000 гадоў; праўда сьляды жыцьця чалавека на Зямлі сягаюць прыблізна да 300.000 гадоў, але зьяўленьне жыцьця на Зямлі датаюць на адзін мільярд гадоў. Век Зямлі ацэньваюць прыблізна на 2 мільярды гадоў, а сонца—на 3 мільярды. Што-ж значыць гісторыя чалавека са сваімі тысячамі гадоў у параўнаньні да гэтых пэрыядаў?! А перадусім, што значыць час жыцьця

аднаго чалавека, ці ён будзе трываць 40, 60, ці нават і 100 гадоў!? Каб лепш уявіць суадносіны часу жыцьця людзтва да веку Зямлі адзін вучоны ўлажыў цікавы календар. Ён падзяліў увесь час існаваньня Зямлі, ад яе зьяўленьня да нашых дзён, на 12 месяцаў. У гэткім маштабе часу першыя жывыя істоты зьяўляюцца дзесь у ліпені, ссысуны — у кастрычніку, чалавек — у канцы лістапада; патрыярх Аўраам жыў-бы ўсяго 8 сотых сэкунды 31-га сьнежня а гадз. 23, 58; значыць ад нас яго дзяліў-бы час толькі аднае мінуты.

З гэтых параўнаньняў з усёю яснасьцю можна ўбачыць нязначнасьць чалавека, але яшчэ ясьней з іх можна выявіць веліч Бога, неабмежаванага ні часам, ні прасторам. Для Бога няма ні ўчора, ні заўтра — для Яго ёсьць адно толькі заўсёднае — цяпер.

І вось Бог — абсалютны Валадар сусьвету праяўляе да тае нязначнае істоты, якою ёсьць чалавек, асаблівую ўвагу. Чаму так ёсьць? Бо ў чалавеку акрамя цела ёсьць яшчэ несьмяротная і разумная душа і гэта яна надае чалавеку тую вартасьць, якая яго вырозьнівае спаміж усіх сатварэньняў. Дзякуючы душы чалавек ёсьць ня толькі вялікі, але нават вельмі вялікі і займае ў сусьвеце асаблівае мейсца. Гэтае значэньне чалавека Сьвяцейшы Айцец Пій XII у адной з прамоваў да вучоных азначыў з уласьціваю сабе яснасьцю: «Чым-жа зьяўляецца існаваньне гэтага так малога сатварэньня, загубленага ў акіяне матэрыяльнага сусьвету, якім, ёсьць чалавек, каб пры сваёй бесканечна малой вялічыні, асьмеліцца адкрыць аблічча і гісторыю космасу? Ёсьць толькі адзін і адзіны магчымы адказ, а відавочнасьць яго бліскавічна ясная; гэта што дух чалавека адносіцца да катэгорыяў існаваньня істотна рознага ад матэрыі і вышэйшы ад яе».

Дзякуючы духовай і разумнай душы чалавек кінуўся на здабыцьцё бязьмежнага матэрыяльнага сьвету і асягнуў паважныя перамогі. Чалавек дасьледуе, мерае, аналізуе з усёю магчымаю дакладнасьцю усё, што толькі яму дасягупнае. Ён вывучае нябесныя целы, іхныя адлегласьці, хэмічны склад, будову, велічыню, вагу: сочыць за іх рухамі, выяўляе законы тых рухаў. Людзкая цікавасьць сягае ўва усе куткі сьвету, усе загадкі займаюць ягоную ўвагу. Зьнікома малое цела чалавека з гледзішча дасьледаў ня грае ніякае ролі, бо бязьмежныя прасторы працінае ня цела, а розум чалавека, які бесканечна перавышае матэрыю.

Розум чалавека не абмяжоўваецца ні часам, ні прасторам. Ён выкрывае тайны ў сучасным сусьвеце і дасьледуе тое, што дзеелася мільёны гадоў таму ў нас на Зямлі і на самых далёкіх зорах. Чалавек адчытвае гісторыю з акамянелых касьцякоў даўно загінуўшых жывёлаў, з стараветных курганоў, вышуквае сьляды цывілізацыі ў пыле вякоў. Але вонкавы выгляд Зямлі і сусьвету не здавальняе цікавасьці чалавека, ён стараецца пазнаць яе ўнутраны склад. Крок за крокам чалавек выкрывае малекулы, хэмічныя элемэнты, атамы. У далейшых студыях пранікае ў будову атаму і выкрывае ягоныя складнікі: протоны, іоны, электроны, нэўтроны і інш., разьбірае іх, азначае вагу, шляхі руху, хуткасьць. Уканцы яму ўдаецца разьбіць атам і вызваліць адтуль страшэнную энэргію. Але на гэтым чалавек ня спыняе сваіх студыяў, а вядзе іх яшчэ з большым напружаньнем.

Адкуль-жа бярэцца ў малым людзкім арганізьме такі дынамізм і такая праніклівасьць? Ясна, што гэта не матэрыяльнае дробнае цела чалавека вядзе да такіх перамогаў, але душа. Аднак ёсьць праўдай, што душа да сваё дзейнасьці патрабуе цела, але да асягненьня перамогаў неабходна, каб цела не заглушала голасу душы, а наадварот, каб слухалася яе.

Душа ў сваёй дзейнасьці перавышае матэрыю таму, што бесканечна перывышае яе ў сваёй істоце. Дарма калісь бязбожнікі стараліся даказаць, што матэрыя вечная; сёньня нязьбіта даказана, што матэрыя мела свой пачатак і што яна можа мець свой канец. Разьбіўшы атам ня толькі сьцьверджана, але і дакладна аблічана, колькі матэрыі замяняецца ў энэргію, колькі яе астаецца ў форме складовых частак і колькі нішчыцца, а душа раз заіснаваўшы ня нішчыцца ніколі — яна вечная. Дзеля гэтага душа больш вартая чым усе матэрыяльныя скарбы ў сьвеце: бо што ёсьць тыя скарбы? — гэта дачасныя і прамінаючыя вартасьці, а душа нязьнішчальная і несьмяротная.

Толькі Бог, Які ёсьць бесканечны і з кожнага гледзішча найдасканалейшы, бесканечна перавышае кожнае сатварэньне, а тым самым і чалавека, дык ня дзіва што ў адносінах да Бога чалавек адчувае сваю абмежаванасьць шмат больш і выразьней, як у адносінах да сусьвету. Немагчыма чалавеку абняць Зямлю, яшчэ больш немагчыма дакрануцца да сонца, але беспараўнаньня больш немагчыма чалавеку дасканала пазнаць Бога, дзеля гэтага мусіць здаволіцца толькі дробнымі і недасканалымі багаслоўскімі ведамі міма найбольшых стараньняў са свайго боку.

Але Бог ведае абмежаванасьць чалавека; ня вымагае ад яго чаго колечы немагчымага. Са свайго боку Бог любячы ўсе сатварэньні, мае асаблівую любоў да чалавека. У Старым Запавеце Бог часта зьвяртаўся да людзей праз сваіх выбраных пасланцоў: патрыярхаў і прарокаў. Ён даў людзям прыказаньні і паступова падрыхтоўваў да асабліва велічнае падзеі — да прыходу на сьвет Сваё Другое Асобы, да ўчалавечаньня Сына Божага, каб праз Яго ўсынавіць Сабе ўвесь людзкі род.

Да прыходу на сьвет Ісуса Хрыста нават і ду-

ховыя сілы чалавека, хоць як яны перавышаюць матэрыю, не маглі ўзьняцца да надпрыроднага сьвету, бо пасьля першароднага граху між імі і надпрыродным сьветам была непраходная прорва, а праз крыжовую ахвяру Хрыста ўтварыўся мост чэраз тую прорву; праз сьв. Тайну Хрышчэньня Бог узьняў нас у Свае абыймы, даў людзям магчымасьць атрымаць Божае сыноўства. Якая вялікая слава служыць такому Валадару сусьвету, Які нас — сваіх дробных і нягодных слугаў — усынавіў, даў магчымасьць асягнуць найбольшую сьвятасьць і найбольшае шчасьце ў небе!

Даючы чалавеку такі вялікі ідэал, Бог даў адначасна патрэбныя да яго асягненьня сродкі. Ён забясьпечыў людзей асаблівым правідам. Калі чалавек па сваёй слабасьці зграшыць, страціць Божую ласку, атрыманую ў сьв. Хрышчэньні, дык ёсьць сьв. Тайна Споведзі, праз якую прывяртаецца асьвячаючая ласка. Больш таго, у сьв. Прычасьцю Хрыстос Сам стаецца духоваю пажываю чалавека.

Бог кліча чалавека да Сябе, але гаварэм больш канкрэтна, Бог кліча мяне да Сябе ў Свае абыймы, Ён бесканечна вывышшае мяне, уздымае да бязьмежнае радасьці.

Пазнаўшы такія пляны Бога адносна чалавека, зразумеем ясна, якім ворагам для чалавека ёсьць бязбожнасьць, якая стараецца пазбавіць нас велічы і шчасьця; пазбавіць таго бесканечнага ідэалу, які Бог прызначыў для чалавека. Бязбожнікі замест уздымаць чалавека, стараюцца сапхнуць яго да ўзроўню неразумных жывёлаў, да чарады быдла. Часам бязбожная прапаганда не адважваецца выразна адкрыць свайго бязбожнага аблічча, каб не адстрашыць ад сябе людзей сваею гідотаю, дзеля гэтага стараецца перш закрыць ад людзей Бога рознымі дачаснымі прынадамі, як: багацьцем, насалодамі цела, славаю, пачасьцямі і пад. Але хто пазнае сапраўдную мэту жыцьця, якую нам даў Бог, той лёгка ўбачыць, што ўсе гэтыя прынады сьмешна дробныя і прамінаючыя, каб маглі засланіць вечны і бесканечны ідэал.

На ўсе спакусы дачаснага жыцьця вернікі павінны адказаць цьвёрдым і непахісным жаданьнем ісьці да Бога ўсею сваею істотаю: думкамі, сэрцам і ўсім жыцьцём.

Поўнае шчасьце чалавек асягне толькі тады, калі поўнасьцю будзе належаць да Бога — гэта станецца ў небе, але ўжо ў дачасным жыцьці чалавек мусіць да гэтага належна падрыхтавацца, выконваючы Божыя прыказаньні і ў першую чаргу найважнейшую з іх: «Любі Госпада Бога твайго ўсім сэрцам тваім, усёю душою тваею, усімі сіламі тваімі, а бліжняга твайго, як самога сябе».

**Т. М.**

# Навука і рэлігія

**(Заканчэньне)**

Толькі ў вольным сьвеце навука можа сказаць сваё сапраўднае слова і яна яго кажа. Вось нядаўна выдаў у Лёндане праф. Іоад цікавую кніжку «Праваднік навачаснае думкі». Там між іншым кажацца: Новая навука сёньня стаіць на боку рэлігіі з такою-ж сілаю, з якою старая навука XIX ст. была супраць яе. Супастаўленьне апошніх выснаўкаў з мікрофізыкі, антрополёгіі і хэміі ўжо зусім ня выключаюць, што сьвет зьявіўся з Божае думкі».

Падобныя сьведчаньні можна пачуць ад найбольшых вучоных даслоўна з усіх галінаў сучаснае навукі. Ня будзем тут паўтараць таго, што ўжо пры розных нагодах было напісана на старонках нашага часапісу, абмяжуемся толькі да найнавейшых сьведчаньняў.

Сучасны прэзыдэнт Акад. Нав. у Нью Ёрку Морісон Грэсі кажа: «Мы стаімо на сьвітаньні навуковае пары і кожнае новае навуковае адкрыцьцё ўсё выразьней выяўляе нам дзела разумнага Стварыцеля. На працягу апошніх 90 гадоў, якія мінулі ад сьмерці Дарвіна, пароблена годныя падзіву адкрыцьці і мы, асноўваючыся на навуку, пабудаваную на веры, штораз бліжэйшыя ў духу навуковае пакоры, пазнаць Бога».

А вось некалькі такіх пакорных і шчырых прызнаньняў: Выказваючы агульнапануючыя пагляды між вучонымі, Рэнэ Сюдр піша: «Замест калішніх гордых заяваў, што хэмія знайшла разьвязку пачатку жыцьця, сёньня вучоныя заяўляюць: «Лепш шчыра прызнацца, што хэмія ня ўмее нават паставіць як сьлед праблемы пачатку жыцьця» (11). «А калі дапусьціць, што жыцьцё зьявілася на зямлі праз прыпадковае спатканьне атамаў, дык гэтае здарэньне нельга назваць іначай, як цудам, што пераносіць праблему ў абсяг рэлігіі» (там-жа с. 214). «Некалькі дзесяткаў гадоў таму чалавек навукі верыў, што ён мог гаварыць аб абсалютным. Мадэрны вучоны здае сабе справу, што цяпер так гаварыць нельга і ён здавальняецца сказаць, што можна гаварыць толькі аб тым, колькі мы ведаем аб абсалютным» (12), ка-

11) René Sudre, op. cit., s. 200 i 214.

12) S. Van Mierlo — La science, la raison et la foi. Paris, 1948, s. 82 i 257.

жа Ван Мерлё і падае на доказ сваe думкі шматлікія сьведчаньні сучасных вучоных, а ўканцы зазначае: «Калі хто шукае апраўданьня свайго недаверства ў тым, што быццам Бог ёсьць непазнавальны, або што між вераю і розумам ёсьць супярэчнасьці, або што ён занадта інтэлігэнтны, каб верыць у Бога — гэтым маніць сам сябе... Аргумэнты супраць веры ў Бога, якія-б яны ня былі дакладныя, выплываюць толькі з нашае гордасьці і нашае варожасьці ды ня ёсьць нічым іншым, як спробаю псыхалягічнага «мудраваньня» » (там-жа с. 257).

Сучасны ангельскі матэматык Эдмунд Вайтакэр у сваім творы «Прастор і дух» кажа, што сучасная навука дамагаецца існаваньня Бога, і то Бога абсалютна незалежнага, бо «факты выказваюць, што немагчыма дапусьціць, каб Бог быў зележны і абумоўлены ад сьвету, каторы мае вызначаны час паўстаньня і канца».

У якім кірунку йдзе сучасная навука, бадайшто найбольш выразна паказвае прыродазнаўства. Агульны зварот прыродазнаўства ў кірунку рэлігіі з нямецкаю дакладнасьцю азначае М. Бавінк (13). Да нядаўна адносна разьвіцьця жывых істотаў была вельмі моднаю моністычная тэорыя эвалюцыі, якая прызнавала, што істоты больш дасканалыя разьвіліся з менш дасканалых бяз узьдзеяньня якоесь вышэйшае прычыны. Сёньня ўжо знойдзена толькі нястачаў у гэтай тэорыі, што калі яе яшчэ трымаюцца дык хіба з прывычкі і супраць свайго пераканаьня(14). Вучоныя, што займаліся пытаньнем інстынкту жывёлаў асабліва востра выступаюць супраць дарвінавае тэорыі эвалюцыі, як аб гэтым сьведчыць Робэрт Нахтвэй у працы прысьвечанай інстынктам. Ён даходзіць да высноўку, што «ў аснове інстынкту ёсьць нематэрыяльная і стаячая вышэй за матэрыю Мудрасьць», а ў далейшым з яшчэ больш націскам кажа: «У аснове сусьвету, як творчы прынцып, мусіць быць думаючая і плянуючая Сіла» (15).

Сучасны францускі прыродавед-біялёг Люцыян-Клёд Куэно кажа, што «ані тэорыя мутацыяў, ані прыпадкі ня выясьняюць эвалюцыі жывых істотаў, дык не астаецца нічога іншага, як верыць у духовую магчымасьць вынахадаў, што яе маюць у сабе жывыя істоты, і якая дзейнічае на матэрыю, як ідэя мастака на матэрыял, якім ён карыстаецца»(16).

Широка ведамы сучасны нямецкі десьледнік прагісторыі Вайнэрт кажа: «Сапраўдная рэлігійнасьць зусім не стаіць у супярэчнасьці з сучаснымі вынікамі тэорыі разьвіцьця»(17).

Сучасная фізыка за апошняе паўвечча зрабіла найбольш адкрыцьцяў, але яна-ж найбольш з усіх галінаў навукі прычынілася да разьбіцьця калішняга матэрыялізму і вучоных наблізіла да Бога. Выдатны ангельскі фізык Эрнэст Рутэрфорд (1871-1937) так схарактэрызаваў адносіны перадавых вучоных да Бога: «У кругу ляікаў думаюць памылкова быццам вучоныя, якія больш за іншых ведаюць аб быцьці, дзеля гэтага самага мусяць быць бязбожнікамі; зусім наадварот: нашая праца нас вядзе да Бога, яна збольшвае нашу пашану адносна Яго гігантычнае сілы, перад якою нашыя бядовыя прыклады, якімі-б яны вялізарнымі на зямлі не выдаваліся, нічога ня варты». Выдатны ангельскі астрофізык Артур Эддінгтон (1899-1944) на адным дакладзе ў Вене казаў: «Мадэрная фізыка вядзе нас проста да Бога, а не ад Яго. У нашым дачасным жыцьці мы можам бачыць толькі адну фазу эвалюцыі сусьвету, усе іншыя мусяць стацца выснаўкам, праўдзівасьць якіх заўсёды абмежаваная, але нам дае прадчуцьцё якоесь Усемагутнасьці, Якая кіруе сусьветам». Найбольшы сучасны нямецкі фізык Дэссаўэр кажа: «Сучасныя досьледы паказваюць ня прорву, але хутчэй дарогу, якая вядзе да Бога»(18). Сучасныя фізыкі асабліва блізка адчулі Божую прысутнасьць у сусьвеце, разьбіўшы атам, як аб гэтым сьведчыць нямецкі фізык Гартман(19). Таму падсумоўваючы пагляды сучасных фізыкаў Т. Фэльштын мог заявіць: «Якраз сёньня перажываемо эпоху наймацнейшага збліжэньня навукі і веры»(20). І гэтае збліжэньне да рэлігіі мае ўсе азнакі трываласьці, як аб гэтым кажа найбольшы сучасны амэрыканскі фізык Робэрт-Артур Мілікан: «Можна спадзявацца, што наступаючыя гады хутчэй пакажуць узрост, а не аслабленьне адносінаў між вучонымі і Царквою».

На заканчэньне варта зацеміць, што яшчэ толькі ў сучаснай філязофіі спаміж некалькі кірункаў ёсьць адзін чыста бязбожны — гэта група экзыстэнцыялістаў на чале з французам Сартрам, але нават і ў гэтым кірунку штораз больш нівэлюе бязбожны ўплыў асобная група хрысьціянскіх экзыстэнцыялістаў (Г. Марсэль, К. Яспэрс). У сваім найнавейшым творы аб філязафічнай веры Яспэрс сцьвярджае: «Рэлігія ёсьць істотнаю рэальнасьцю і я сьведамы, чаго мне не

13) M. Bavink — Die Naturwissenschaft auf dem Wege zur Religion. Frankfurt a. M. 1933.

14) René Sudre, op. cit., s. 220.

15) Robert Nachwey — Instinkt, Rätsel der Welt. Wiesbaden, 1950, s. 24.

16) Lucien-Claude Cuénot — Invention et finalité en biologie. Paris, 1941, s. 43.

17) Hans Weinert — Vormenschenfunden. Frankfurt, a. M. 1939, s. 110.

18) Friedrich Dessauer — Religion im Lichte der heutigen Naturwissenschaft. Framkfurt, a. M. 1951, s. 46.

19) Hartman — Atomphisik, Biologie und Religion. Stuttgart, 1947.

20) Dr. Tadeusz Felsztyn — Wiara i wiedza w swietle nowoczesnych pogladow fizycznych. Italia, 1945, s. 37.

стае, каб гаварыць аб ёй» (21). Затое іншыя філязафічныя кірункі (не рахуючы савецкага) маюць характар выразна істотна рэлігійны. Для прыкладу варта ўспомніць як адносіўся да Бога прадстаўнік філязофіі дзейнасьці М. Блёндэль (1861-1949), ён казаў: «Тыя, што ня маюць праўдзівае ідэі Бога, твораць сабе ідалаў, або абагаўляюць самых сябе», дык для філёзафа стае ясным, што «праблема Бога сёньня становіцца ўва ўсёй сваёй паўнаце і з усёю настойлівасьцю перад сумленьнем і перад розумам кожнага»(22).

Падсумоўваючы пагляды, пануючыя ў сучаснай філязофіі Шіякка, кажа: «Сучасная культура павінна пераканацца, што няма культуры бяз мэтафізычнае асновы, як няма культуры бяз духу дабрадзейнасьці. Бяз веры ў трансцэндэнтную рэальнасьць (ясьней кажучы бяз веры ў Бога) і без надзеі ў нашую несьмяротнасьць разваліваюцца ўсякія прынцыпы маральнасьці і рэлігіі. Дзеля гэтага разьвязка сучаснага крызысу і сучаснае сьведамасьці знайходзіцца ў аднаўленьні хрысьціянска-каталіцкае мэтафізыкі, якая была заўсёды хрыбтом кожнае сапраўднае цывілізацыі, непахіснаю асноваю кожнага сапраўднага маральнага паняцьця жыцьця»(23).

У мінулым стагодзьдзі, калі былі намножыліся розныя пераходныя гіпатэзы, якія здавалася мелі пахіснуць асновамі Цэрквы, сьвяцейшы айцец Пій IX у 1846 г. у энцыкліцы «Qui pluribus» казаў: «Розум і вера ня маюць чаго сябе ўзаемна баяцца, бо і адно і другое паходзяць з тае самае крыніцы, з адзінае і нязьменнае праўды — ад Бога». Праўдзівасьць гэтых слоў сёньня бачым выразьней чым калі. Бог даў чалавеку пачуцьці, даў пазнавальныя здольнасьці, даў розум, каб у дачасным жыцьці чалавек пазнаў сваё найвышэйшае прызначэньне да будучага жыцьця ў небе, ды каб імкнуўся яго асягнуць праз сумленнае выкананьне Божае волі. І можам цешыцца, што сучасная навука ступіла на добрую дарогу, яна дапамагае чалавеку пазнаць тую апошную мэту і асьвятліць шлях да яе.

**а. Л. Гарошка.**

21) Karl Jaspers — La foi philosophique. Paris, 1953, s. 105.

22) Maurice Blondel — La philosophie et l'esprit chrétien. Paris, 1950, t. I, s. 2.

23) Michele Federico Sciacca — Il problema di Dio e della religione nella filosofia attuale. Roma, 1946, s. 388.

# За хрысьціянскае сужыцьцё народаў

Гісторыя ведае больш або менш дабравольныя спалучэньні народаў і рас у адзін палітычны арганізм. Такі твор, такое спалучэньне, так доўга існаваў, пакуль на кіраўнічых становішчах прытрымоўваліся агульна-людзкіх прынцыпаў, вынікаючых з прыродных праваў адзінкі, праваў Божых. Хаця такі спалучаны палітычны арганізм аб'ядноўваў часта зусім адменныя чужыя, для сябе, рознамоўныя і рознакультурныя народы, дык усіх іх цэмэнтавала ў адно цэлае адна ідэя, аднолькавыя паняцьці аб маральнасьці, этыцы і аднолькавыя грамадзкія правы. Калі-ж аднак у даным зьвязку народаў парушаліся асноўныя прынцыпы справядлівасьці і этыкі ў грамадзкім жыцьці і ўлада трапляла ў рукі эгаістычных груп ці адзінак — сужыцьцё народаў ставалася далей немагчымым; тады нават наймагутнейшая імпэрыя ператваралася ў хаос і ў выніку ўнутраных змаганьняў распадалася на часткі. Такі працэс прайшоў зьвязок дзяржаваў старажытнае Грэцыі і Рыму, Рымская Імпэрыя нямецкага народу, Рэчраспалітая Ягайлонаў і Аўстро-Мадзярская Імпэрыя. Іншыя рознанацыянальныя палітычныя творы, пабудаваныя выключна шляхам захопніцтва і падбою, як: імпэрыя Аляксандра Македонскага, турэцкіх султанаў, Напалеона I, ці нарэшце Гітлера — звычайна канчалі сваё існаваньне разам са сьмерцю самога захопніка калі ея не папераджалі.

Навейшая гісторыя ёсьць сьведкай новых форм сужыцьця народаў, як: Злучаныя Штаты Амэрыкі і Брытыйская Супольнасьць Народаў (Комэнвэльт). Гэтыя дзьве, праўда ня зусім аднолькавыя, супольнасці народаў сваім засягам абыймаюць перадусім сьвет па-за эўрапэйскі і фактычна фармуюцца навонках ад калыскі хрысьціянскае культуры, нібы аддаляючыяся ад «беднае» Эўропы, пакідаючы яе ня толькі ў гаспадарчым заняпадзе, але і ў палітычным хаосе і духовым закалоце, аднак у фармаваньні сваіх палітычных арганізмаў кладуць пад фундамант якраз эўропэйскія хрысьціянскія вартасьці: вольнасьць і справядлівасьць для кожнае адзінкі і народу, пашану традыцыяў і сям'і, салідарнасьць і ахвярнасьць пры дапамогах у выпадках стыхійных катастрофаў.

Нас, жывых рэпрэзантантаў, сёньня так ахвотна пагарджанае, старое і зьнішчанае Эўропы, аднак заўсёды багатае прыгожае і перадуючае часткі зямнога глёбусу — мусіць праймаць глыбокі непакой аб будучыні Эўропы як цэласьці і аб будучыні яе паасобных народоў. Дзеля гэтага трэба сьмела паддаць суровай крытыцы тыя шкодныя людзкія гоны, якія так моцна прычыніліся да

сучаснага закалоту сярод народаў Эўропы; тыя гоны, якія кідаюць людзкія масы ад аднае ўлады да другое, ад аднаго міту да другога, нідзе не знаходзячы пацехі для спрагнутых сэрц, ані супакою для зьбянтэжаных душ і зморaных умыслаў. Памінаючы ўсе палітычныя нэгатыўныя дзейнікі, як: вайна з ея страшэннымі наступствамі: паленьне жыўцом нявінных людзей у крэматорыях, нішчэньне безбаронных гарадоў, паленьне вёсак разам з насельніцтвам, дэпартацыі цэлых аселішчаў і нават цэлых народаў — трэба ацаніць як праяў руйнуючы асновы жыцьця які абымае: занік маральнасьці ў прыватным і трамадзкім жыцьці, заняпад рэлігійнасьці, заняпад сапраўднае веры ў Бога і ў Яго аб'яўленыя праўды; а замест гэтага ад дзясяткаў гадоў зазначаецца грозны наступ ваюючага бязбожжа разрост культу абагаўленьня «праўдыроў», занік пачуцьця любові бліжняга, нябывалы росквіт эгаізму, экзальтацыя авантурніцтва, захапленьне выгодамі фатэлёвага жыцьця.

Машынізацыя і аўтаматызацыя жыцьця замест адцяжыць высілак чалавека і накіраваць ягоны розум да вышэйшых вартасьцяў, да Бога — зьняволіла чалавека; машына сталася яго прывярэдлівай паняй, а нават мэтай і прадметам культу, забіраючы час, супакой і нават думкі.

Чатыры міты сучаснасьці сёньня пабуджаюць і прыцягваюць да сябе людзкія масы; гэта: грошы, камфорт, дзеяньне і хуткасьць. Гэта яны вядуць да наіўнага, акалечанага сьветагляду, засланяючы сабою вышэйшыя вартасьці, без каторых аднаўленьне культуры і адбудова сужыцьця народаў Эўропы ёсьць немагчымай. А што належыць да вышэйшых вартасьцяў? Гэта: вера, хрысьціянская этыка, прастата жыцьця, чыстае сумленьне, заўсёдная ўнутраная праца над самым сабою. Духоўная расьцярушанасьць і нутраны нясупакой так паўсюдна сустраканыя ў нашы дні — гэта вялікія ворагі кожнае рэлігіі бо яны адрываюць чалавека ад прабываньня з самым сабою і ад шуканьня дарогі да Найвышэйшага.

Пануючы цяпер у сьвеце крызыс ёсьць крызысам збанкрутаванае мадэрнае цывілізацыі з яе ваенным вандалізмам, паганскім культам дзяржавы, праўдыроў, дактрын спраў чыста сацыяльных, ці эканамічных з пагорджаньнем годнасьці чалавека разгляданага як дзяржаўная ўласнасьць, як частка масы без аблічча, а не як індывідуальная асабовасьць, з захпленьнем выгадамі сучаснае цывілізацыі (кіно, радыё, тэлевізія, аўтаматы і пад.) машынізмам, тэхнакрацыяй і другімі праявамі ашуканчага прагрэсу. Прагрэс толькі тэхнічны ня ёсьць сапраўдным прагрэсам чалавецтва на шляху яго разьвіцьця згодна з прыроднымі і Божымі правамі.

Чалавек ствараючы прэцызыйна дзеючыя машыны, мае нахіл да культу свайго твору. Але ці той твор — машына — вінаватая за такую маральную арыентацыю чалавека? Зразумела, што не! Але няма сумніву, што дзякуючы самым умовам яе існаваньня і працы машына дала некаторыя аргуманты тэорыям, зроджаным з матэрыялізму. Аднак ёсьць ясным, што культ машынаў ніякага здаволеньня чалавеку не дае, бо глыбіня людзкое душы можа здаволіцца толькі бесканечнымі вартасьцямі, а ўсякі матэрыяльны дастатак, найдасканалейшыя тэхнічныя асягненьні, ані агулам якія іншыя дачасныя вартасьці ня ў сіле заспакоіць імкненьняў людзкое душы. Таму неабходна, каб людзкая энэргія, скіраваная асабліва апошнім часам выключна ў кірунку здабыцьця ўлады над матэрыяй — магла быць скіраваная на пазнаньне самога сябе і на апанаваньне свае ніжэйшае натуры. Дасьведчаньні апошніх дзесяцігодзьдзяў могуць быць як павучаючы прыклад, што сам сухі, цесны, скіраваны выключна на вонках, людзкі розум ня можа вывесьці чалавека з трагічнае нядолі сучаснасьці, але, што ён у сваіх пошуках мусіць прыслухацца да голасу людзкога сэрца, ненасычанага ў сваёй смазе, ахапляючага ўсьцяж большы абсяг справаў і людзей, пранікаючага ў сутнасьць сучаснага няшчасьця, чэрпаючага нязморaныя сілы грамадзкага дзеяньня ў любові да бліжняга — толькі ў згодным выслухоўваньні голасу розуму і сэрца чалавек мае магчымасьць знайсьці мэту і сродкі. Але ў гэтых пошуках патрэбны яшчэ адзін важны дзейнік — вера. Розум, адвярнуўшыся ад веры, ад аб'яўленых праўдаў, разьмінаецца з асноўнымі прынцыпамі хрысьціянскае маралі, адварочваецца ад яе глыбокага псыхалягічнага зьместу і трапляе ў павуціньне фальшывае дыялектыкі. Таму на мейсца дыялектыкі ў культуры адроджанага чалавецтва павінна запанаваць хрысьціянская этыка, якая адзіная мае ўсе даныя на тое, каб упаўшую людзкасьць павесьці да духовае дасканаласьці. Спрэчка, што быццам розум і навука пярэчаць рэлігіі, а рэлігія навуцы, ужо даўно вырашана яшчэ перад найнавейшымі адкрыцьцямі ў галіне атамнае фізыкі. Навейшая тэорыі аб будове макракосмасу і мікракосмасу, а так-жа тэорыя хвалёвае мэханікі падважваюць усе тыя прынцыпы, якія зьяўляюцца праявамі рацыналізацыі ў фізычным сьвеце. Пануючае калісь пераканаьне аб выключнай праўдзівасьці толькі тых фактаў, якія даступныя нашым змыслам, была адкінута найбольшымі фізыкамі на пачатку нашага стагодзьдзя. Макс Планк (1958-1947) у сваёй навуковай працы «Рэлігія і прыродазнаўства» (Ліпск 1938) між іншым піша: «Мы павінны прызнаць як факт існаваньне ў сьвеце разумнага парадку, якому падлягаюць чалавек і прырода. Таму вера ў Божую сілу, пануючую над сьветам, ёсьць згодная з навукай».

Усялякія матэрыялістычныя тэорыі, якія

прымаюць матэрыю за аснову парадку ў сьвеце, нас поўнасьцю расчароўваюць. Нячуваныя цярпеньні ў часе апошняе вайны, калі быццам сапраўднае пекла прыйшло на зямлю, закранула людзкую сьведамасьць нібы лянцэт хірурга, які сягнуў аж да тканкаў духовае сутнасьці і павёў людзкую сьведамасьць да тайны тае сутнасьці, тайны заўсёды рэлігійнае. Людзі сучаснасьці, рашчэпленыя згубай мінуўшага сьвету і не знаходзячы новага, заблытаныя ў хаосе палітычных, сацыяльных і эканамічных перабудоваў — горача прагнуць слоў пацехі, новых, але пэўных шляхоў, якія далі-б ім супакой сумленьня, духовую раўнавагу і якія беспамыльна вялі-б да апошняе мэты — да Найвышэйшага.

Змагаючыся словам і дзеяньнем за хрысьціянскую адбудову жыцьця і сужыцьця народаў зруйнаванае Эўропы, неабходна паддаць кароткай крытычнай аналізе дзьве антаганічныя сучасныя сілы, якія рыхтуюцца да вырашальнае барацьбы, бязьлітасна гуляючы долею людзкасьці.

Першая скрайная сіла — гэта прыватны капіталізм, які йдзе супрацьнароднаю і супрацьхрысьціянскаю дарогаю манапалізму і кіруецца выключным правам найбольшага даходу; ён ня мог заспакоіць намаганьняў масаў удзельнічаць у справядлівым падзеле здабытага даходу.

Другая скрайнасьць — дзяржаўны капіталізм (камунізм), апіраючыся выключна на матэрыяльных фактарах, адкідаючы духовую натуру чалавека і змагаючыся з кожнай рэлігіяй — сёньня ў практыцы замяніў чалавека ў нявольніча-паслухмяную прыладу, а народы ў бязьлітасна эксплятаваную масу, усюды ўводзячы кіраўніцтва паліцэйскага тэрору, усё прыпраўляючы фальшам, фразамі і д'ябальскай нянавісьцю да бліжняга.

Паводля гэгелеўскае схэмы разважаньня, можна было-б ва ўпадаючай капіталістычна-лібэральнай сыстэме бачыць тэзу, а ў марксістоўскай ідэалёгіі (дзяржаўным капіталізьме) — антытэзу. Гэтыя дзьве спрэчныя сілы, якія вядуць змаганьне ў сусьветным засягу, ня могуць быць будучыняй сьвету, бо яны абедзьве маюць у сабе зародкі раскладу. З гэтага змаганьня паўстане штосьці новае — сынтэза. Скрайнасьці заўсёды падлягаюць зьнішчэньню і ўступаюць мейсца для новага кампрамісовага твору. Новая сынтэза — сьвет народжаны з людзкіх цярпеньняў і болю, з мора крыві і сьлёз, з хаосу тэорыяў і паняцьцяў, каторых падставаю былі выключна эканамічна-сацыяльныя прычыны — новы сьвет будзе мець азнакі адроджанага вучэньня Хрыста, азнакі непрамінаючых вартасьцяў, вартасьцяў рэлігійных.

Абедзьве скрайныя сілы, якія сёньня змагаюцца ў сьвеце, былі шмат разоў асуджаныя Сьвяцейшымі Айцамі і асабліва ў энцыкліцы папы Льва XIII «Rerum Novarum» і ў энцыкліцы папы Пія XI «Quadragesimo Anno».

Папа Пій XI нядвузначна асудзіў эгаістычнасьць упрывілеяваных пластоў грамадзянства, слушна прадбачваючы, што высоўваньне наперад аднае грамадзкае групы і яе інтарэсаў, зьяўляецца найвялікшай небясьпекай будучай Эўропы. «Найбольш асудзіць трэба тых — казаў Сьвяцейшы Айцец — якія ня рупяцца зьліквідаваць, ці зьмяніць стан рэчаў, што прыводзяць масы да роспачы духа і якія гэтым самым падрыхтоўваюць грунт да зьнішчэньня парадку і ладу». Гэтыя словы збыліся. Не без заслугі ўпрывілеяваных групаў, дэспатычных уладароў, ці проста рэакцыйных урадаў быў падрыхтаваны клімат і грунт да зьнішчэньня парадку і ладу ў Эўропе, а перадусім у сярэдня-ўсходняй яе часьці, дзе «роспач духа масаў» выкарысталі чырвоныя дэмагогі для сваіх эгаістычных мэтаў. Не без заслугі эгаістычных упрывілеяваных колаў заходняга сьвету сёньня Эўропа разарваная на дзьве часьці, адгароджаныя між сабою т. зв. зялезнаю заслонай, з якіх усходняя частка выдана пад уладу бязбожнай камуністычнай сыстэме з дапамогаю заходняга сьвету, бо палітыкі захаду кіраваліся і надалей кіруюцца не прынцыпамі пашаны і роўнасьці ў дачыненьнях з сільнымі і слабымі, з багатымі і беднымі, але прынцыпамі найбольшых карысьцяў ці то для свае палітычнае партыі ў выбарах, ці для свайго народу, ломячы пры гэтым найсьвяцейшыя міжнародныя ўмовы, дэклярацыі і карты. Як-жа вымоўнымі ёсьць словы Сьвяцейшага Айца Пія XII сказаныя ў 1939 г. на пачатку другое сусьветнае вайны ў калядную ноч! Вось яны: «Асноўнай вымогай кожнага справядлівага і чэснага міру ёсьць прызнаньне ўсім народам, вялікім і малым, магутным і слабым, права да незалежнага жыцьця. Воля да жыцьця аднаго народу ня можа быць ніколі прысудам сьмерці для другога народу. Калі-ж гэткая роўнасьць праваў зьнішчаецца парушаецца ці загрожваецца, тады справядлівасьць вымагае направы крыўды не пры дапамозе мяча, ці на аснове самавольнага пастанаўленьня зацікаўленага, але на аснове справядлівасьці і слушнасьці».

Будучыня Эўропы, сужыцьцё эўрапэйскіх народаў павінна апірацца выключна і толькі на прынцыпах справядлівасьці для кожнага народу. Цэмэнтам згоднага і добрасуседзкага сужыцьця горка-дасьведчаных народаў Эўропы могуць быць толькі забавязваючыя ўсіх людзей хрысьціянскія прынцыпы маральнасьці і этыкі.

Шалеючую нянавісьць павінна заступіць сапраўдная любоў да бліжняга. Несправядлівасьць, прыгнобленьне і дыскрымінацыю слабых павінна заступіць справядлівасьць, сапраўдная дэмакрацыя роўнасьць праваў і пашана да кожнага. За-

мест няволі павінна запанаваць сапраўдная свабода ў кожнай галіне людзкога жыцьця: у веры, у мастацтве, у навуцы, а так-жа ў гаспадарчых, грамадзкіх і палітычных суадносінах.

Нормы для палагоджаньня разьбежнасьці інтарэсаў павінны быць браныя з найбольшага прыказаньня Хрыстовае навукі: «Любі бліжняга свайго, як самога сябе». У ім ёсьць цудоўная сіла для служэньня грамадзтву ў найлепшы спосаб. Далей, усе пачынаньні, умовы, дэклярацыі і пад. павінны быць ахопленыя духам добрае волі, бо толькі людзі добра волі могуць асягнуць супакой, як аб гэтым сьпявалі анёлы у часе нараджэньня Збавіцеля.

Якраз сёньня шматлікім не хапае тае добрае волі, а перадусім дзяржаўным дзеячом. У сэрцах шматлікіх з іх даўно залягло аблыжжа, эгаізм да тае ступені, што сьвятыя і вечныя рэчы яны адсунулі на задні плян, а на першы плян выставілі будзённыя, малыя і выключна матэрыяльныя рэчы. Вось-жа неабходна вызваліць сэрцы і розум ад супрэмацыі матэрыяльных вартасьцяў. Ніякая пабудова ня будзе трывалай ані здаровай, калі ў яе аснове ня будуць ляжаць вышэйшыя вартасьці, вартасьці рэлігійныя. У сьвятле крызысу і цярпеньня, які перажывае сучасны сьвет, а перадусім Эўропа, пакутуючая за свой духовы занядад, адварот ад рэлігіі ды хрысьціянскіх ідэалаў, блуканьне па крутых сьцежках рацыяналізму, пазытывізму, матэрыялізму і пад. — словы Сьвяцейшага Айца, што датуль ў Эўропе ня можа заіснаваць сапраўдны супакой, пакуль паасобныя людзі і цэлыя народы не падпарадкуюцца верна да навукі і прыкладу Хрыста ў прыватным і грамадзкім жыцьці — сёньня набіраюць асабліваe сілы і актуальнасьці.

**Вітаўт Зьніч.**

(Заканчэньне ў наст. нумары)

# Няведамыя шляхі

На забалочанай пашы пры вялікім гасьцінцы пасьвілася чарада кароў, а пастушкі сядзелі воддаль у кучы на прысадах, хаваючыся за невялікім адкосам ад сівернага і слотнага ветру. Найбольш даймаючa адчуваў холад Андрэйка, ягоныя пасінелыя худыя рукі не маглі схавацца ў абшмуляных кароткіх рукавох старога халаціка, а маці удава не магла яму прыдбаць лепшае вопраткі, на восень.

Раптам за ўзгоркам пачуўся гул самаходу і грамадка пастушкоў ажывілася. Яны ўсе ўсхапіліся і глядзелі ў той бок, адкуль даходзіў гук. Відаць, што тут самаход быў рэдкім зьявішчам, нават каровы і тыя паднялі галавы і наставілі вушы ў кірунку дзіўнага гуку. Вось гук узмогся і з-за ўзгорка паказалася невялікая лімузына. Даехаўшы да пастушкоў, самаход спыніўся, бо наперадзе была гразкая грэбля з глыбокімі рытвінамі.

Шофэр, відаць добра ведаючы свой фах, папрасіў пастушкоў, каб прынесьлі хлуду з недалёкага хмызьняку ў найбольш небясьпечнае мейсца, а якаясь пані з самаходу дала ім па цукерцы для заахвочаньня. Просьба хутка была выканана. Калі шофэр раскладаў хлуд і ламачча, пастушкі з цікавасьцю аглядалі самаход, а з самаходу з няменшай цікавасьцю аглядалі аглядальнікаў і гутарылі між сабою:

— Ты паглядзі на таго вонь у падзёртым халаціку, ён так акалеў, што аж калоціцца.

— Але ты бачыш, які ён цікавы, хоць калоціцца, а лезе наперад, каб усюды заглянуць.

— Малы яшчэ, дык і ў галаву яму ня прыходзіць, што яго чакае ў жыцьці вечнае цярпеньне, і што яго доля будзе такая сумная і непрасьветная, як сёньнешні слотны дзень.

— Чаму ты так думаеш, што яго доля заўсёды будзе такая сумная?

— А якая-ж яна можа быць іншая ў гэтым глухім закутку?

Матор самаходу загуў з усяе моцы і гутарка спынілася, толькі пару цікавых, вачэй з самаходу яшчэ нейкі сачылі за пасінелымі рукамі Андрэйка.

Як толькі самаход схаваўся за кругазор да грамадкі пастухоў прышоў дзядзька Апанас, каб падмяніць свайго нябожа Барыса, найлепшага прыяцеля Андрэйка. Пастухі наперабой апавядалі дзядзьку аб тым, што нядаўна бачылі. Уканцы нехта з іх зацеміў:

— Вось добра тым, што ў самаходзе, ня мокнуць і ня дубеюць як мы!

— Ох, вы, жэўжыкі — гаварыў спакойна Апанас — сёньня пэўна ім лепей, але няма ведама, як будзе заўтра.

— Чаму, чаму, дзядзька? — пачулася адразу некалькі галасоў.

— Чаму? Бо вы яшчэ ня ведаеце, што спаміж гэткіх во, што езьдзяць у карэтах, ці самаходах, найбольш няшчасных людзей у сьвеце. Колькі з іх страляецца, колькі атручваецца і ліха ведама што вырабляе, што мусіць ім і ліку няма — а гэта-ж вырабляюць яны не з дабра!

— Хіба вы, дзядзька, не хацелі-б езьдзіць у самаходзе? — запытаўся найстарэйшы з хлапцоў.

— Езьдзіў я ўжо, голубе, на гэтай чортапхайцы, як быў у войску, кагдзе яны тады былі зьявіліся, і паглядзеў, што невялікае гэта шчасьце. Яно пэўна-ж добра мець такую снасьць, але гэтага чалавеку замала да шчасьця. Вы думаеце, што як сядзеш на самаход, дык адразу і шчасьце знойдзеш. Не, небажаты, дарога да шчасьця для ні-

кога не зачынена. Нават найбольш бедныя, але чэсныя і працавітыя людзі могуць часам барджэй знайсьці шчасьце як багатыя. А ці дасьце веры, вы жэўжыкі, што часам дарога да шчасьця йдзе праз бяду і гора?

Пастушкі маўчалі, відаць, што ня вельмі разумелі аб чым гаварыў дзядзька Апанас. Ён хвіліну падумаў, а потым прадаўжаў:

— Вось хочаце, дык я вам раскажу цікавую казку?

Уся грамадка толькі гэтага і чакала, бо добра ведалі, што калісьці дзядзька Апанас бычыў сьвету нямала і шмат чаго ведаў.

— Калісь, як я быў у вашых гадох, дык чуў ад аднаго падарожнага вось гэткае апавяданьне:

«Аднойчы Бог паклікаў да сябе анёла сьмерці і кажа:

— Ідзі ў той край, дзе цяпер сьцюжа і холад, дзе шмат лясоў і балотаў, дзе крыўда пануе над крыўдай; там ля скрыжаваньня вялікіх дарогаў ляжыць вёска над берагам возера, ты яе ведаеш!

— Так, Божа, — адказаў анёл.

— Там на скраю вёскі жыве ўдава з двумя сіратамі; пайдзі і забяры душу ўдавы і прынясі яе сюды!

— Твая сьвятая воля станецца! — адказаў анёл, упаўшы на твар перад Богам.

Вомігам зьляцеў анёл у азначаную вёску і ўвайшоў у хату ўдавы. Бедная хаціна, няпаленая ад некалькі дзён і няпрыпратваная, авеяла яго няэвычайнаю жуткасьцю. Вокны былі пазамярзаныя і праз іх ледва прасьвечваўся сонечны сьвет. Вада ў вядры прамерзла да дна. У запечку двое дзяцей, дзьве сіраты, пасінеўшымі ад сьцюжы рукамі стараліся разламаць замёрзлую скарынку хлеба. Праз іхныя парваныя сарочкі мяйсцамі прасьвечвала худое і кволае цела. Толькі гора і цярпеньня малявалася на іхных абліччах, што анёл расчуліўся да глыбіні душы і яму мільганула думка: а што будзе з імі, калі я забяру ў іх апошнюю апору, іхнюю маці? У гэтым мамэнце хворая маці шаптала шчырую малітву, просячы літасьці ў Бога. Шчырая літасьць так парушыла анёла, што ён затрымаўся з выкананьнем загаду і паімчаўся да Бога з пакорнаю просьбаю:

— Божа, даруй мне, адмяні Тваю сьвятую волю і дазволь той беднай удаве яшчэ крыху пажыць і ўзгадаваць дзетак...

На гэтую просьбу Бог сказаў:

— Там пры тэй вёсцы на дне возера ў самым глыбокім мейсцы ляжыць камень, прынясі яго сюды і расшчапі.

Як башыч загад быў выкананы. Унутры каменя былі два чарвячкі.

— Вось бачыш, — гаварыў Стварыцель да анёла — ніхто ў сьвеце нават і ня ведаў і не прадчуваў, што ў глыбіні возера ёсьць гэткія дробныя істоты, але Я аб іх ні на хвіліну не забываўся. Дык ідзі-ж і выканай загад і ведай, што аб сіратах Я буду памятаць.

Праз хвіліну ў той беднай вёсцы асталіся дзьве круглыя сіраты. Суседкі сабраліся ладзіць хаўтуры ўдаве. Суседзі разабралі часьць столі на дамавіну, а назаўтра сусед вёз на санях цела беднае ўдавы на вечны супачынак. Якаясь жанчына з больш чулым сэрцам прычытвала, ідучы за дамавінаю, а каля яе йшлі кволыя і абдзёртыя сіраты. Праз вокны вясковых хатаў выглядалі цікавыя вочы гаспадароў, але хутка адыходзілі ад вакна, прыгаворваючы:

— Удаву то пахаваюць, але хто возьме сіратаў? Што будзе з імі?

Як толькі хаўтурная працэсія выехала за вёску на сустрач ехаў з суседняе вёскі якісьці заможны гаспадар са сваею жонкаю. Яны былі бязьдзетныя і ехалі да варажбіткі. Згодна з адвечным звычаем, гаспадар зьехаў на бок, каб даць дарогу пакойніцы. Ён зьлез з саняў зьняў шапку і набажна перахрысьціўся, а потым зьвярнуўся да адное з жанчынаў, што апошняя йшла ў працэсіі.

— Каго гэта хаваюць?

— Дык гэта-ж Лявонаву ўдаву. Ды вось асталіся па ёй дзьве сіраты і няма ім цяпер дзе галаву прытуліць...

— Лявонаву ўдаву ... паўтарыў сам сабе ў паўголаса — Сіроткі, кажаш, асталіся. — Ён раптам зьвярнуўся да свае жонкі. Ганулю няма чаго ехаць да варажбіткі, нам Бог ужо пасылае адразу аж двое дзетак.

І вось, жэўжыкі, таго-ж самага дня вечарам сіраты ўжо ня былі бяспрытульнымі».

Апавяданьне дзядзькі Апанаса слухаў Андрэйка ня толькі вушамі, але ўсею сваею істотаю, бо-ж і ён сірата, хоць ня круглая, але тым ня менш цярпіць вельмі шмат. І вось ён сёньня першы раз пачуў, што над усімі і асабліва над цярпячымі, дбае Нябесны Айцец. Гэта так падбадзёрыла Андрэйку, дало яму толькі нутранае радасьці, што хацелася скакаць і сьпяваць, бо ён ня чуўся больш бяспрытульным.

**А. Жменя.**

# Тыдзень Студыяў „Руні“

Маладая арганізацыя Беларускае Акадэмічнае Каталіцкае Аб'еднаньне «Рунь» ладзіла сёлета ў Англіі між 26-VII і 2-VIII ужо трэці з чаргі Тыдзень Студыяў, з праводнаю тэмаю «Хрысьціянскі элемэнт у беларускай культуры». На колькі актуальная і паважная гэтая тэма можна было пераканацца ў часе Тыдня — рэфэратаў было прачытана нямала, але закранулі яны толькі дроб-

ную частку названае тэмы, даючы хіба толькі пачын да далейшае працы ў гэтым кірунку.

Спакойнае манастырскае жыцьцё ў беларускім доме айцоў Марыянаў у Лёндане ўжо ў суботу 25-VII пачало зьмяняцца да непазнаньня. Адзін за адным прыяжджалі прадстаўнікі «Руні» і госьці з розных краінаў вольнае Эўропы. Радасна віталіся з сабою даўно знаёмая, а незнаёмыя ставаліся знаёмымі праз колькі хвілінаў. З-заморскіх краінаў нельга было спадзявацца ўдзельнікаў, але прывітальныя лісты і нават рэфэрат прысланыя задоўга перад пачаткам Тыдня, кажуць самі аб сабе, што зацікаўленьне да шчасьлівага пачыну «Руні ў радох беларускае эміграцыі ўсюды расьце штораз больш.

Хоць у сучасных матэрыяльных абставінах падарожжа каштуе дорага, аднак ахвярнасьці ў сяброў «Руні» не бракуе і на Тыдзень сабралася больш дваццаці чалавек з: Англіі, Бэльгіі, Гішпаніі, Нямеччыны і Францыі. Толькі на вялікі жаль між прысутнымі ня было самога старшыні «Руні»; ён знаходзіўся ў шпіталю, дзе нядаўна меў апэрацыю.

Згодна з намечанай праграмаю афіцыяльнае адкрыцьцё Тыдня папярэдзіла ўрачыстая Служба Божая ў капліцы айцоў Марыянаў, якую раніцаю 26-VII адправіў а. Л. Гарошка і пры гэтым сказаў казаньне аб сутнасьці Хрыстовае навукі. Папалудні таго-ж дня намесьнік старшыні БАКА «Рунь» д-р В. Рамук адчыніў Тыдзень Студыяў, вітаючы прысутных, выказваючы асаблівае значэньне абранае тэмы студыяў і заклікаючы ўсіх да шчырае малітвы за бацькаўшчыну, бо Трэці Тыдзень Студыяў прызначаны быць адначасна Тыднем Малітвы за Беларусь. Наступна духоўны асыстэнт «Руні» а. д-р Ч. Сіповіч, расказаўшы аб важнейшых арганізацыйных цяжкасьцях, прачытаў надасланыя прывітаньні, пасьля чаго быў прачытаны першы рэфэрат і ўсьлед за тым а гадз. 17 а. Фр. Чарняўскі адправіў інаўгурацыйнае багаслужэньне з выстаўленьнен Найсьвяцейшых Дараў і багаславенствам.

І пачаліся дні працы і малітвы. У канфэрэнцыйнай салі рана і вечарам чыталіся даклады, заўсёды суправаджаныя вельмі цікаваю і зьмястоўнаю дыскусіяю, а ў капліцы раніцай і вечарам плылі да Бога шчырыя супольныя малітвы і там-жа штодзенна чаргаваліся Службы Божыя ў бізант.-слав. і лацінскім абрадах з кароткім казаньнем.

У аўторак 28-VII вечарам між удзельнікаў заўважвалася большае як звычайна ажыўленьне — гэта ўсе з хваляваньнем чакалі Я. Э. Балеслава Слосканса Апостальскага Візітатара для Беларусаў у Зах. Эўропе. Вось ля варот спынілася аўта і адтуль выйшаў высокадастойны госьць у суправаджэньні прадстаўнікоў «Руні», якія спаткалі Яго на станцыі. У мамэнт усе прысутныя былі ля дзьвярэй дому айцоў Марыянаў і віталі ўладыку Балеслава з хлебам-сольлю і кветкамі.

Адменны парадак мелі два дні Тыдня — гэта чацьвер і субота. У чацьвер адбываўся агульны зьезд БАКА «Руні», а ў суботу 1-VIII адбыліся аднадзённыя рэкалекцыі пад кіраўніцтвам Я. Э. Балеслава Слосканса — гэта быў кульмінацыйны дзень у духовым жыцьці ўдзельнікаў падчас Тыдня Студыяў. Агулам прысутнасьць уладыкі Балеслава надавала асаблівы адпячатак усяму Тыдню, бо ягоная асоба была быццам сымбалем пакутуючае бацькаўшчыны. Гэта асабліва жыва ставала перад вачыма кожнага, калі ўладыка Балеслаў у трох амаль двохгадзінных канфэрэнцыях расказаваў аб сваіх перажываньнях і аб рэлігійных прасьледаваньнях на Беларусі — гэта старонкі гісторыі беларускае Царквы пісаныя крывёю і сьлязамі, дык ня дзіва, што прысутныя іх ня толькі слухалі, але і перажывалі. Нажаль тыя цярпеньні і сёньня ня скончаныя, беларускі народ і далей нясе свой цяжкі крыж і сумна сабе ўсьведаміць, што на эміграцыі ёсьць замала людзей добрае волі, якія шчыра стараюцца хоць чым колечы прычыніцца для аблягчэньня ўсенароднага цярпеньня, а на добры лад перад кожным эмігрантам штодзенна павінна вырынаць пытаньне: што раблю я ў гэтым кірунку? што магу зрабіць больш?

Што да самых дакладаў, дык на працягу Тыдня былі прачытаны: а. Л. Гарошка — «Асновы беларускае культуры» і «Дахрысьціянскія вераваньні беларускіх пляменьняў (Міталёгія)», а д-р Ч. Сіповіч — «Значэньне рэлігіі ў разьвіцьці культуры» і «Айцы Марыяне ў Друі», А. Адамовіч — «Да пытаньня пра ролю каталікоў у нашым нацыянальным руху», М. Наумовіч — «Беларускае рэлігійнае мастацтва», Сп. Клаўсуць — «Хрысьціянскі дзейнік ў адбудове сужыцьця народаў Эўропы», Я. Сурвіла — «Аб уплывах хрысьціянства на беларускія абычаёвыя і пісаныя правы».

Вольнага часу ўдзельнікі сёлета мелі няшмат. У адмену ад папярэдніх Тыдняў сёлета кожны дзень быў так заняты, што хоць і зьнята з праграмы экскурсію, усё-ж яшчэ ня стала часу на прачытаньне аж трох дакладаў. Але для адпачынку аставалася даволі часу між паасобнымі пунктамі парадку дня, а прасторны агарод, адбіванка і часапісы былі да дыспазыцыі кожнага, каб правесьці час з карысьцю. Калі лёнданская атмасфэра часам паказвала сваю прывярэдлівасьць, дык затое атмасфэра якая панавала між удзьльнікамі Тыдня ўвесь час была пагодная і жыцьцярадасная; прычыняліся да гэтага пакрысе ўсе: і гаспадыня Аўсей сваей дбайлівасьцю і А. Мэдыцкая сваімі турботамі, і кожны пакрысе, хто сваім гумарам, а хто сваею павагаю.

З нагоды Тыдня Студыяў управа «Руні» вы-

слала Сьвяцейшаму Айцу прывітальную тэлеграму і ў адказ на яе атрымала праз Апостальскага Дэлегата ў Лёндане сапраўды бацькаўскі адказ і апостальскае багаслаўенства для усіх удзельнікаў.

На заканчэньне Тыдня Студыяў адбылося ўрачыстае пасьвячэньне іконы заступнікаў беларускага народу (Аб гэтым глядзі наступны артыкул).

Узбагачаныя інтэлектуальна і духова, разьяжджаліся ўдзельнікі Тыдня з жаданьнем стрэнуцца зноў у наступным годзе.

**Удзельнік.**

# Высьвячэнне Іконы Сьв. Заступнікаў Беларускага Народу

Заканчэньне Тыдня Студыяў БАКА «Рунь» суправаджалася ўрачыстасьцю, якая рэдка здараецца ў нашым эміграцыйным жыцьці — гэта была ўрачыстасьць высьвячэньня Іконы Сьвятых Заступнікаў Беларускага Народу.

Гісторыя іконы кароткая: У мінулым годзе адведаў Беларускую Каталіцкую Місію ў В. Брытаніі і яе капліцу маёр Андрэй Багамолец. З гутаркі і дакумантаў, якія ён ахвяраваў Місіі, выявілася, што ён ёсьць нашчадкам князёў Рурыкавічаў, а дакладней кажучы беларускіх Ізяславічаў. Адзін з продкаў Андрэя Багамольца менскі князь Усевалад Яраславіч, аб якім успамінае захаваны ў архівах Багамольцаў дакумант з 1393 г., адбыў паломніцтва ў Ерузалім і праўдападобна адтуль атрымаў прозьвішча «Багамолец».

Маёр Андрэй Багамолец, хоць сам ужо даўно адбіўся ад Беларусі і яе сучаснага жыцьця, аднак яшчэ захаваў некаторыя традыцыі сваіх продкаў, і адчуваючы стыхійны зьвязок з Беларусьсю, падарыў для Беларускае Каталіцкае Місіі ў В. Брытаніі значную суму, каб за ея была зроблена Ікона і каб потым, калі надыйдзе час павароту ў вольную Беларусь, была перавезена туды.

Намалаявала Ікону, згодна з воляю ахвярадаўца, ведамая украінская іконаграфка Коростовец. Разьмер Іконы ў раме: 61 цм. на 71 цм. Арыгінальнасьцю яна не азначаецца, але мае глыбокі зьмест. На залатым фоне ў верхнім радзе цэнтральнае мейсца займае Ісус Пантакратар з Багародзіцай праваруч і Іванам Хрысьціцелем леваруч — гэта так званы Дээзіс, а ў ніжнім радзе стаяць сьвятыя, якіх беларускі народ здаўна ўважае за сваіх нябесных заступнікаў: сьв. Ёзафат біск. Полацкі і Віцебскі, сьв. Казімер, сьв. Еўфрасіня Полацкая, сьв. Аўрам Смаленскі і сьв. Кірыла Тураўскі.

2 жніўня 1953 г. у доме айцоў Марыянаў ужо ад самага раньня адчуваўся сьвяточны настрой. Жанчыны рыхтавалі прыгожы вянок з жывых кветак з пышнаю бел-чырвона-белаю стужкаю, а студэнты прымацоўвалі да фронту дому папскі, вялікабрытанскі і беларускі сьцягі. А гадз. 10, 30 рэктар Беларускае Каталіцкае Місіі ў Францыі а. Леў Гарошка адправіў урачыстую Службу Божую і сказаў казаньне аб сьвятасьці ў штодзенным жыцьці. Капліца была поўная, прысутнічаў так-жа Я. Э. Балеслаў Слосканс, Апостальскі Адміністратар Менскі і Магілёўскі і сучасны Ап. Візітатар Беларусаў на Эміграцыі.

Галоўная ўрачыстасьць адбылася папалудні. Перад 5 гадз. пачалі сходзіцца і зьяджацца госьці ў дом айцоў Марыянаў; беларусы з Лёндану і з іншых цэнтраў прыбылі першыя, а за імі зьявіліся шматлікія госьці і прадстаўнікі ад іншых нацыянальнасьцяў: ад ангельцаў было некалькі духоўных, між імі канонік Парсонс — дырэктар каталіцкае школы ў Фіншлей, некалькі карэспандэнтаў ад ангельскае прэсы і шматлікія наведвальнікі капліцы; ад аўстрыйцаў была цэлая група беларускіх прыхільнікаў; ад гішпанцаў — прадстаўнік студэнтаў; ад жыдоў-каталікоў — некалькі шчырых прыхільнікаў беларусаў; ад індыйцаў — сьвятар



**Ікона Сьв. Заступнікаў Беларускага Народу ў капліцы айцоў Марыянаў перад пасьвячэньнем**

малянкарэйскага абраду і маёр Меррік; ад ірляндцаў — некалькі нашых шчырых знаёмых; ад латышоў — некалькі прыяцялёў беларусаў; ад летувісаў — а. д-р К. Матуляйтіс рэктар летувіскага касьцёлу ў Лёндане; ад нова-зэляндцаў — маёр



**а. Ч. Сіповіч дзякуе Апостальскаму Дэлегату.**

Кірк; ад немцаў — група знаёмых; ад палякаў — пралат С. Станішэўскі гэнэральны вікары для палякаў у Вялікабрытаніі ў суправаджэньні іншых духоўных; ад расейцаў — некалькі сапраўды шчырых прыяцялёў беларусаў; ад славакаў — др. Прідавок ведамы славацкі дзеяч; ад украінцаў — старшыня Згуртаваньня Украінцаў у В. Брытаніі сп. Лісевіч з жонкай і сп. Гальку-Ледахоўскі з гуртком сяброў; ад эстонцаў — адзін з мяйсцовых дзеячоў.

Пунктуальна а гадз. 5 прыехаў Я. Э. архіб. Вільгэльм Годфрэй Апостальскі Дэлегат у В. Брытаніі ў асысьце свайго сакратара. Усе прысутныя беларускія сьвятары разам з Я. Э. Слоскансам спаткалі яго ў браме дому з хлебам і сольлю.

Пасьля кароткага прывітаньня ўсе накіраваліся ў капліцу, дзе пасярэдзіне красавалася Ікона Сьвятых Заступнікаў Беларускага Народу, прыбраная вянком жывых кветак. Перад пасьвячэньнем Іконы Апостальскі Дэлегат передаў усім удзельнікам Тыдня Студыяў і усім сябром БАКА «Рунь» Апостальскае Багаславенства, а пасьля адбылося самое пасьвячэньне ў лацінскім абрадзе, пры гэтым Апостальскі Дэлегат сказаў прынагаднае казаньне. Суправаджалася пасьвячэньне малітвамі і сьпевамі перад выстаўленым у манстранцыі Эўхарыстычным Хрыстом. Адчувалася нешта нязвычайнае, калі перад іконаю і Эўхарыстычным Госпадам уздымаліся да Найвышэйшага гукі нашае адвечнае мольбы: «Сьвяты Божа, Сьвяты Моцны, Сьвяты Несьмяротны, зжалься над намі»... потым лацінскія і беларускія рэлігійныя песьні і гымны і ўканцы «Магутны Божа».

У капліцы, якая можа зьмясьціць каля сотні чалавек, гэтым разам для шмат каго ня стала мейсца; людзі стаялі на карыдоры і ў суседняй залі.

Наступным актам было прыняцьце Апостольскім Дэлегатам ўсіх прысутных на ўрачыстасьці госьцяў. Прыймаў ён усіх ласкава і кожнага багаславіў.

Пасьля ўсе сабраліся ў садзе айцоў Марыянаў, дзе ўжо чакаў скромны пачастунак. Жанчыны з прыветлівай усьмешкай узяліся разносіць закускі і гарбату, змабілізаваўшы сабе да помачы частку студэнтаў, а іншая частка была ўжо занятая карэспандэнтамі, якія настойліва выпытвалі: «А колькі мільёнаў беларусаў?», «Што дзеецца цяпер на Беларусі?». Падобныя пытаньні чуліся з вуснаў шматлікіх госьцяў.

Здаволеная цікавасьць карэспандэнтаў знайшла адлюстраваньня на старонках ангельскае прэсы. «Catholic Herald» № 3516, «Universe» № 4828, і «The Tablet» № 5907 падалі большыя, або меншыя рэпартажы аб беларускай урачыстасьці.

Пасьля перапынку а. Ч. Сіповіч просіць усіх сабрацца бліжэй асобы Апостальскага Дэлегата і тады ад імя свайго, ад імя Беларускае Каталіцкае Місіі і ад імя БАКА «Рунь» дзякуе яму за апеку над беларусамі і асабліва за акт пасьвячаньня Іконы. Наступна старшыня БАКА «Рунь» д-р В. Рамук у францускай мове падзякаваў, усім, што прычыніліся да сёньняшняе ўрачыстасьці, а ў першую чаргу архібіскупу Годфрэй і біскупу Слоскансу Апостальскаму Візітатару для Беларусаў на Эміграцыі, пры тым зазначыў, што прысутнасьць гэтых двох ерархаў сярод беларусаў прыймаецца беларусамі ня толькі як акт ветлівасьці і зычлівасьці для нас Апостальскага Пасаду, але як падтрымка нас на духу у змаганьні за нашыя сьвятыя ідэалы.



**Агарод айцоў Марыянаў у часе прыняцьня госьцяў. На першым пляне (адвернены сьпіною) Я. Э. Годфрэй Апостальскі Дэлегат у В. Брытаніі гутарыць з Я. Э. Слоскансам Апостальскім Візітатарам для Беларусаў на Эміграцыі.**

На ўсё гэта Апостальскі Дэлегат адказаў сапраўды бацькаўскімі словамі. Ён пахваліў беларускія рэлігійныя песьні, якія чуў у капліцы і заахвочваў да бадзёрага ператрываньня злыбядаў,

якія зваліліся на беларускі народ і край, пры тым яшчэ раз пабагаславіў усіх прысутных. Уканцы на ягонае жаданьне былі адсьпяваныя дзьве песьні: «Люблю наш край» і «Пагоня». Галосным «Жыве Апостальскі Дэлегат» мы разьвіталіся з пачэсным госьцем.

Таго дня вячэрнія малітвы адбыліся перад тolькішто высьвячанай Іконай Сьвятых Заступнікаў Беларускага Народу. Да глыбіні душы быў узрушаючы акт, калі пасьля малітваў Я. Э. Слосканс у асысьце сьвятароў падыйшоў да Іконы і сказаў: «А цяпер пабагаслаўлем Іконай усю Беларусь: тут прысутную і тую, што там у сябе цярпіць і што ў вязьніцах і катаргах...»

Ён багаславіў, высока ўзьнятаю Іконай, а прысутныя нізка пахілілі галовы і ўціралі сьлёзы. Пасьля багаславенства ўсе прысутныя цалавалі Ікону і бадайшто ў кожнага з глыбіны сэрца плыла малітва: «Божа, праз Тваіх сьвятых заступнікаў вярні нам нашы сьвятыні, вярні нам вольную хрысьціянскую Беларусь!»

а. Ч. Сіповіч.

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## ВАСЬМІСОТЫЯ ЎГОДКІ СЬМЕРЦІ СЬВ. БЭРНАРДА.

Сёлета па ўсёй Францыі пачынаючы ад месяца траўня і аж да канца жніўня адбываліся меншыя і большыя ўрачыстасьці на чэсьць сьв. Бэрнарда (1091-1153), які быў адным з найбольш вызначных прадстаўнікоў рэлігійнага, грамадзкага і навуковага жыцьця ў сярэднявеччу. Найбольшыя ўрачыстасьці зьвязаныя з васьмісотымі ўгодкамі сьмерці сьвятога Бэрнарда адбыліся між 15-20 жніўня ў Вэзэле, дзе калісь сьвяты меў шматлікія казаньні, заахвочваючы сваіх суродзічаў да масавага ўдзелу ў Другім Крыжовым Паходзе. На ўрачыстасьцях у Вэзэле былі шматлікія прадстаўнікі так духоўных, як і сьвецкіх і з Францыі і з суседніх краінаў.

## ДРУГІ МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС МІРУ І ХРЫСЬЦІЯНСКАЕ ЦЫВІЛІЗАЦЫІ.

Між 22-27 ліпеня вызначныя рэлігійныя і культурныя дзеячы з 39 дзяржаваў займаліся ў Флёрэнцыі студыямі асноўнае структуры хрысьціянскае цывілізацыі. Гэтыя студыі далі шмат матэрыялу для адпору нападаў розных цёмных сілаў, скіраваных супраць хрысьціянства.

## МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС РЭЛІГІЙНАГА ТЭАТРАЛЬНАГА МАСТАЦТВА.

У старадаўным бэльгійскім горадзе Брюж між 12-17 жніўня адбыўся міжнародны кангрэс прысьвечаны рэлігійнаму тэатральнаму мастацтву з багатаю праграмаю, якая абыймала: фаховыя даклады, дыскусіі, канцэрты і адведваньне выстаўкаў. З гэтае нагоды тэатральнае Таварыства Артыстаў «Найсьвяцейшае Крыві» у Брюж наладзіла на гарадзкім пляцы прадстаўленьне «Сямі радасьцяў Марыі», а француская група артыстаў з Жэнэ выступіла з прадстаўленьнем драмы Паўла Клёдэля «Дарога Крыжа».

## МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС КІНАЛЁГАЎ.

Прадстаўнікі каталіцкіх арганізацыяў, якія займаюцца кінам, мелі сёлета свой першы міжнародны кангрэс на абтоку Мальта. Ён быў падрыхтоўкай да дня студыяў, які мае адбыцца ў наступным годзе і мае займацца клясыфікацыяй маральнасьці паасобных фільмаў.

## СУСТРЭЧА КАТАЛІЦКІХ І ПРАВАСЛАЎНЫХ БАГАСЛОВАЎ.

Недалёка ад Парыжу ў Ле Сольшуар ў сэмінары айцоў Дамініканцаў адбыўся між 6-9 траўня зьезд тае часткі каталіцкіх і праваслаўных багасловаў, што займаюцца пытаньнямі царкоўных узаемаадносін. Праводнаю тэмаю дакладаў было найбольш важнае пытаньне ў адносінах між каталікамі і праваслаўнымі — прымат Рымскага Пасаду ў традыціі Царквы. Пасьля дакладаў заўсёды адбывалася вымена думак, у якой міма разьбежнасьці паглядаў было нямала аднадгодных пунктаў. Гэта была ужо другая такая сустрэча багасловаў. Першая адбылася ў 1951 г. і была прысьвечана абгаворваньню пытаньня. «Filioque».

## МІЖВЫЗНАВАЛЬНАЕ ЛІТУРГІЧНАЕ СПАТКАНЬНЕ.

У Парыскім Праваслаўным Багаслоўскім Інстытуце сьв. Сергія сёлета між 6-9 ліпеня спатkaліся вызначныя каталіцкія, праваслаўныя і пратэстанцкія літургісты і праз тры дні займаліся навуковымі студыямі літургічных пытаньняў. Праўда ня ўсе тыя, якія былі зазначаны ў сьпісе ўдзельнікаў, зьявіліся, але наагул сабралася нямала багасловаў. Тэмы парушаныя ў дакладах, былі даволі розныя, усе аднак мелі адну характэрную рысу, што выказвалі зварот у сучасным літургічным руху да сьв. Пісаньня і да айцоў Царквы. Падобнае спатканьне навукоўцаў розных веравызнаньняў, розных абрадаў і розных нацыянальнасьцяў, дзе ёсьць магчымасьць спакойна выменьвацца сваімі, часам даволі разьбежнымі паглядамі, ёсьць характэрным знакам часу.

## НОВЫ ПАТРЫЯРХАТ.

Баўгарская Праваслаўная Царква на сваім сынодзе ў Сафіі дня 10 траўня абвесьціла ўтва-

рэньне незалежнага Патрыярхату, выбраўшы на патрыярха Плоўдзіўскага мітр. Кірыла. Уласьціва сынод толькі аднавіў калішні баўгарскі Патрыярхат, які зьнішчылі туркі ў 1393 г., завяваўшы Баўгарыю, але сам факт, што гэтае аднаўленьне адбылося пад дыктоўку з Масквы і з удзелам толькі падсавецкіх ерархаў спрычыніла тое, што Бізантыйскі Патрыях абвесьціў выбары некананічнымі і тым самым практычна баўгарская Царква вярнулася зноў да тае схізмы, ў якой была ад 1870 г. да 1945 г.

### ВЫСТУПЛЕНЬНЕ СУПРАЦЬ ЕРАРХАЎ У ЮГАСЛАВІІ.

Нядаўна мяйсцовыя камуністычныя актывісты ў горадзе Баньял-Люка правін. Босьнія і Герцагавіна выгналі з гораду праваслаўнага яп. Васіля Косіча і каталіцкага яп. Карла Цэліка Апостальскага Адміністратара Баньял-Люкі, бо маўляў «яны апошнім часам узмоцнілі супрацькамуністычную дзейнасьць». Югаслаўскае радыё падаючы гэтую вестку, падчырквала, што «гэта народ сам выгнаў ерархаў». Калішняя старая савецкая практыка яшчэ мае вучняў.

### НОВАЯ СУПРАЦЬКАТАЛІЦКАЯ ХВАЛЯ Ў КІТАІ.

Наступ камуністычнае кітайскае ўлады супраць каталіцызму адбываецца хвалямі, між якімі варожасьць нібы прыціхае. Апошнім часам хваля супрацькаталіцкае прапаганды выбухла з новаю сілаю. Пэкінскае радыё асабліва нападае на місіянароў чужынцоў, закідаючы ім такія злочыны, як: «вынішчэньне кітайскіх дзяцей у сірацінцах» і «мэтэрэолёгічнае шпіёнства» (¹). Відавочна камуністы падобнымі закідамі падрыхтоўваюць апінію да выгнаньня ўсіх хрысьціянскіх місіянароў з Кітаю.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## БАЦЬКАЎШЧЫНА.

### Аднаўленьне Пятніцкае царквы.

Пашкоджаная ў часе апошняе сусьветнае вайны Пятніцкая царква ў Вільні пасьля васьмігодняга рамонту летась 10 лістапада была нанава пасьвячана, як аседак пятніцкае віленскае праваслаўнае парахвіі. Падаючы да ведама гэты факт Ж.М.П. Нр. 4 з 1953 г. падчырквае, што рамонт зроблена «толькі дзякуючы шчодрай помачы Маскоўскае Патрыярхіі». Гэта мог-бы быць пахвалы годны ўчынак, але ён зроблены больш для маскоўскае прапаганды, як для рэлігійных мэтаў. На вонкавых сьценах сьвятыні на відных мейсцах прымацавана дзьве вялікія мармуровыя плыты з надпісамі ў расейскай мове. Вось адзін з іх: «В сей церкви император Петр Великий в 1705 г. слушал благодарное молебствие за одержанную победу над войсками Карла XII, подарил ей знамя, отнятое в той победе у шведов, и крестил в ней африканца Ганнибала, деда знаменитаго поэта нашего А. С. Пушкина». Значыць беларусам нават царкоўныя сьцены маюць прамаўляць, каб не забываліся аб расейскіх царох і што Пушкін ёсьць «нашым» паэтам.

### Масква — абсалютны кіраўнік Акад. Нав. БССР.

Не ад сёньня ведама, што ўсе важнейшыя ўстановы ў БССР атрымоўваюць дырэктывы для свае дзейнасьці проста з Масквы, але да апошняга часу афіцыяльна аб гэтым стараліся ў кіруючых кругох прамоўчваць. Цяпер відаць гэта ўжо немагчыма і напрыклад «Звязда» з 25-V-53 паведамляе, што 24 чэрвеня заклікана ў Маскву ўвесь прэзыдыюм Акадэміі Навук БССР для сумеснае нарады з прэзыдыюмам Акад. Навук СССР і ў канцовай пастанове прэзыдыюмаў названых Акадэміяў «накрэсьлена асноўныя задачы і шляхі далейшага разьвіцьця навукі ў Беларусі». Ня цяжка дагадацца, куды тыя шляхі маюць быць накіраваны.

### Заняпад беларускага мовазнаўства.

Камуністычная газэта «Звязда» з 19-V-53 адважылася надрукаваць артыкул М. Судніка «Нявырашаныя пытаньні беларускага мовазнаўства», з якога даведваемся, што «за пасьляваенны пэрыяд нашы буйнейшыя навуковыя ўстановы, як напрыклад Беларускі дзяржаўны унівэрсытэт... Мінскі педагагічны інстытут замежных моваў, ня выдалі ніводнага нумару філялягічных запісак». І далей аўтар пералічае, чаго ня зроблена ў галіне беларускага мовазнаўства, хоць зрабіць трэба было. З таго пералічэньня можна зрабіць больш, чым сумны выснавак, бо за выняткам пару навуковых паважнейшых артыкулаў беларускае мовазнаўства зусім запушчана. Толькі аўтар не дадае, што цяпер і працаваць у гэтай галіне няма каму, бо найвыдатнейшых беларускіх мовазнаўцаў даўно зьліквідована.

### «Звязда» бяз рэдактара.

Пачынаючы ад 31 сьнежня 1952 г. менскую «Звязду» падпісвае намесьнік рэдактара В. Пышкоў. Аб тым, што сталася з дагэтулешным рэдактарам Д. Драгуном не падана ніякіх высьненьняў. Ужо мінула больш як паўгоду, а новы рэдактар усё яшчэ не назначаны.

### Зьмены ў міністэрствах.

Запачаткаваная сёлета ў красавіку акцыя адміністрацыных зьменаў і перабудовы ў паасобных рэспубліках СССР і акцыя чыстак, праявіла-

ся так-жа і ў БССР. З ранейшых 26 міністэрстваў у БССР у жнівені г.г., асталося тольні 18 адначасна пазьменьвана шматлікіх міністраў на найбольш адказных становішчх. Звольнена міністра ўнутраных спраў М. Баскакава і на яго мейсца назначана Міхася Дэчка.. Апошнім часам (29-VIII) звольнена старшыню савету міністраў Аляксея Кляшчова і на яго мейсца назначана Кірыла Мазурова. Усе гэтыя зьмены дзеюцца па загаду з Масквы і ад іх ніякіх палепшаньняў нельга спадзявацца.

## АНГЛІЯ.

### Агульны Зьеззд БАКА «Рунь».

Беларускае Акадэмічнае Каталіцкае Аб'еднаньне «Рунь» сёлета мела ўжо чацьвёрты з чаргі агульны Зьезд. Адбыўся ён 30 ліпеня ў Лёндане ў прысутнасьці Я. Э. Балеслава Слосканса Апостальскага Візітатара для Беларусаў. З прычыны хваробы старшыні галоўнае ўправы «Руні» Ал. Надсона адчыніў Зьезд заступнік старшыні д-р В. Рамук і пасьля выбару старшыні і сакратара Зьезду ён-жа зрабіў справаздачу з дзейнасьці галоўнае ўправы. Дапоўніў справаздачу дух. асыстэнт «Руні» а. д-р Ч. Сіповіч і прадстаўнікі з Бэльгіі, Гішпаніі, Францыі і Нямеччыны. За мінулы год лік сяброў крыху ўзрос у заморскіх краінах, але дзеля вялікае расьцярушанасьці там яшчэ ня было магчыма ўтварыць адзьдзелаў, аднак праца ў меру магчымасьці вялася ўсюды. Пасьля рачовае дыскусіі над справаздачамі дана абсалюторыю з падзякай уступаючай упраўе і выбрана новую ў такім складзе: старшыня — д-р В. Рамук, заступнік старшыні — А. Надсон, сакратар — Д. Аніська, скарбнік — Ф. Бартуль. Духоўным асыстэнтам астаўся і далей а. д-р Ч. Сіповіч. Наступна ў кароткай дыскусіі намечана плян працы на йдучы год. На заканчэньне прамаўляў да прдысутных уладыка Балеслаў аб значэньні арганізацыйнае працы і даў усім сябром пастырскае багаславеньне.

## АЎСТРАЛІЯ.

### Выдавецкі пачын.

Задзіночаньне Беларускіх Вэтэранаў у Аўстраліі ў мінулым годзе наладзіла сваю невялічкую друкарню ў якой сёлета выдала маленькі насьценны календар на 1954 г. і прыступіла да выданьня паштовак з беларускімі дзеячамі.

## БЭЛЬГІЯ.

### У студэнцкай калёніі.

У канцы сёлетняга акадэмічнага году ў Лювэнскім Унівэрсытэце Вітаўт Рамук здаў свае апошнія экзаміны і атрымаў тытул доктара мэдыцыны. Кадры беларускае інтэлігэнцыі на эміграцыі хоць паволі, але растуць.

## З.Ш.А.

### За прызнаньне БССР і УССР.

У зьвязку з пастановаю Падкамісіі Замежных Спраў амэрыканскае палаты рэпрэзэнтантаў навязаць дыплёматычныя зьвязкі між З.Ш.А., і беларускаю ды украінскаю савецкімі рэспублікамі зьявілася на старонках амэрыканскае і эміграцыйнае беларускае і украінскае прэсы шматкікія кмэнтары з пазытыўнаю ацэнкаю пастановы Падкамісіі. Затое расейская эміграцыйная прэса калі ўспамінала аб гэтай пастанове, дык адзывалася аб ёй вельмі няпрыхільна, таму што падобныя пастановы ўзмацняюць вызвольны рух паняволеных Расеяю народаў.

### З арганізацыйнага жыцьця.

● **Беларускія Скаўты** з Нью Ёрку сёлета, падобна як і ў мінулым годзе, летам выязджалі ў лягэр. Гэта пацяшаючы знак, калі не зважаючы на расьцярушанасьць беларуская моладзь горнецца да скаўцкага жыцьця.

● У Чыкаго дня 28-VI г.г. заснаваўся Адзьдзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. У склад ягонае ўправы ўвайшлі: старшыня — Л. Трусэвіч, заступнік старшыні — А. Бяленіс, сакратар — В. Пануцэвіч, скарбнік — М. Кучура, сябра ўправы — А. Якімовіч. Новаствораны Адзьдзел пачаў выдаваць свой **Бюлетэнь.** У зьвязку з утварэньнем Адзьдзелу дня 28-VI адбылася сходка існуючае ў Чыкаго яшчэ з-перад першае сусьветнае вайны **Беларуска-Амэрыканскае Нацыянальнае Рады,** якая пастанавіла зьліквідавацца і перадаць сваю маемасьць управе Адзьдзелу БАЗА ў Чыкаго.

## НЯМЕЧЧЫНА.

### На міжнародным Зьезьдзе.

Сёлетні зьезд міжнароднае каталіцкае арганізацыі «Пакс Романа» адбыўся ў сталіцы Зах. Нямецкае рэспублікі ў Бонн між 7-12 жніўня з удзелам каля 300 прадстаўнікоў ад 51 каталіцкае арганізацыі 38 народаў. Беларусы зьяўляюцца сябрамі Пакс Романа» ад 1951 г. і на сёлетнім зьезьдзе мелі дэлегацыю з шасьці чалавек на чале з старшынёю БАКА «Рунь» д-р В. Рамуком і духоўным асыстэнтам «Руні» а. д-рам Ч. Сіповічам.

Адчыніў Зьезд прывітальнай прамовай старшыня «Пакс Романа» праф. д-р Г. Тэйлер (ЗША) пасьля д-р Жайрэрс (Бонн) прачытаў першы даклад на тэму: «Рэлігійны і духоўны клімат у сучасным сьвеце», выклікаючы вельмі цікавую дыскусію. У наступных днёх асноўныя даклады прачыталі: праф-ка Поронэтто (Рым) «Уклад «Пакс Романа» і яго сяброў у сучасную думку» ў праф. д-р Ф. фон дэр Гайдэ (Майнц) «Міжнародныя заданьні каталіцкіх акадэмікаў». Пасьля кожнага дакладу адбывалася доўгая і зьмястоўная дыскусія.

Акрамя агульных зборкаў былі так-жа зборкі меншых кругоў. Для нас асабліва значэньне мае зборка, якую мелі дэлегаты паняволеных народаў. На ёй сп. Часноўскі (Польшча) парушыў праблему асыміляцыі эміграцыі і сродкі супрацьдзеяньня ёй. Беларуская дэлегацыя ўнесла пра-

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris. Directeur : Abbé L. Horosco.

панову, каб у рамах «Пакс Романа» наладзіць асобны Тыдзень Студыяў для прадстаўнікоў народаў з-за зялезнае заслоны. Прапанову прынята і ўнесена на пленум, якое яе перадало ў галоўную ўправу.

На Зьезьдзе прысутнічалі высокія прадстаўнікі Каталіцкае Царквы Нямеччыны і нямецкага ўраду. У наядзелю 9-VIII Я. Эм. Кардынал Фрінгс адправіў для сяброў Зьезду ўрачыстую Службу Божую і ён-жа пасьля прамаўляў на ўрачыстым паседжаньні, якое адбылося ў салі Боннскага Унівэрсытэту. Усьлед за ім прамаўлялі прадстаўнікі ўраду і сябры «Пакс Романа». Ад беларусаў з кароткаю прамовай выступаў д-р В. Рамук.

Працы Зьезду суправаджаліся: мастацкім канцэртам музыкі і экскурсіямі ў замак Бріляў, у славуты манастыр айцоў Бэнэдыктынцаў у Марыя-Ляах і над возера Ляах — усе гэтыя імпрэзы былі добра зарганізаваныя немцамі і заслужылі на агульную ўдзячнасьць і прызнаньне.

Для ўдзельнікаў прыватныя спатканьні мелі ня меншае значэньне, як афіцыяльныя зборкі і нарады. Бо якраз у прыватных спатканьнях найбольш выяўляўся той мілы, прыветлівы, сапраўды хрысьціянскі настрой удзельнікаў, якога часта не стае арэлігійным міжнародным зборкам. Прыемна было бачыць, як знайходзілі між сабою супольную мову француз і немец, беларус і японец, італьянец і бразіліец і пад. — яны ня толькі пазнавалі сябе бліжэй, але сапраўды зьбліжаліся. І ў гэтай вялікай сям'і народаў ня было ні старэйшых, ні малодшых «братоў».

# Абразкі з жыцьця

### У АБАРОНЕ СЬВЯТЫНІ

У дзесяцігодку невялікага мястэчка Д. у Зах. Беларусі бальшавіцкія ўлады ў 1940 г. прыслалі з Ростова піянэрважатага камсамольца і той зачаў сваю дзейнасьць між маяйсцовае школьнае моладзі ад бязбожнае прапаганды. Каб паказаць перад вучнямі, што царкву можна мець за нішто, аднойчы падчас вячэрні ён увайшоў туды ў шапцы і з папяросаю ў зубах, але пабачыўшы на сабе разгневаныя пагляды вернікаў, пасьпяшыўся палезьці на хоры. Там мігам навокал яго знайшоўся пэлы гурт моладзі і хтосьці моцным рухам выбіў яму з зубоў папяросу, а іншая моцная рука зьняла з галавы піянэрважатага шапку, разам са жмутам валасоў і выкінула праз вакно. Камсамолец кулём зьляцеў з хораў і больш ня важыўся зьневажаць сьвятыні.

### СЛОВЫ КАЗАНЬНЯ СПРАЎДЖВАЮЦЦА

Калішні палескі ваявода, Костэк-Бэрнацкі, сапраўдны кіраўнік канц-лягэру ў Картускай Бярозе, вядучы насільную палянізацыю Палесься, ніяк ня мог дараваць усх.-каталіцкаму параху ў Гародне, што той не зважаючы на ніякія грашовыя кары і пагрозы, ані ў школе, ані ў царкве не хацеў ужываць польскае мовы. І вось на Сёмуху 1938 г. ваявода, пераапрануўшыся за палешука прыехаў цішком у Гарадзенскую царкву, каб глянуць на таго «ўпартага» параха. А парах спакойна адпраўляў Службу Божую і пасля Эвангельля сказаў зьмястоўнае казаньне аб Сьв. Духу пацяшыцяплю і між іншым зазначыў: «І нават тыя, што сёньня займаюць высокія становішчы, калі ня будуць мець у сэрцы Сьв. Духа, дык прыйдзе час, што тыя, якія іх сёньня пакорна слухаюць, устануць супраць іх і патопчуць іх і дзе тады будуць шукаць пацехі?». Праз паўтара году ўжо Костэк-Бэрнацкі мусіў хавацца ад акупацыйных нямецкіх уладаў, а ў 1947 г. яго злавілі польскія ўлады і засудзілі як злачынца.

### НЯ Ў ЛЮДЗКАЙ МОЦЫ

Аднаго ангельскага міліянэра раптам ухапіў моцны патылічны курч і пакліканы сьпешна лекар з сумам сьцьвердзіў, што міліянэру асталося ўсяго якіх тры гадзіны жыцьця. Пачуўшы такую вестку, пераляканы багач зьвярнуўся да лекара: «Затрымайце маё жыцьцё хаця да заўтрашняе раніцы, каб я мог упарадкаваць мае справы, я вам заплачу за гэта 100.000 фунтаў». На гэта лекар адказаў: «Я магу вам прыпісаць лек, але прадаць час я не магу, бо час ёсьць у Божых руках». Паводля **Гауга.**

### БОЖАЯ УСЕМАГУТНАСЬЦЬ НА СЛУЖБЕ ЛЮБОВІ

Падчас пратэстанцкіх рэлігійных заварушань у 1596 г. аднаго дня група пратэстанцкіх баявікоў увайшла ў адну каталіцкую сьвятыню ў Ніжняй Рэнаніі якраз у тым часе, калі там вучні маліліся перад Найсьвяцейшымі Дарамі. Адзін з пратэстантаў падыйшоў да першага з краю вучня і зьвярнуўся да яго, пагардліва сьмяючыся: «Скажы мне, калі ўмееш, малітву «Ойча наш»!». Вучань спакойна пачаў: «Ойча наш, каторы ёсьць у небе...». «Добра, — перабіў яму пратэстант, — дык чаму-ж ты молішся да Бога на аўтары, калі сам кажаш, што Ён ёсьць у небе?». Хлапец па хвіліне развагі спакойна адказаў: «А ці ты ведаеш Апостальскае вызнаньне веры?». «Так!» — быў адказ. «Дык скажы яго». «Веру ў Бога Айца Усемагутнага, Стварыцеля неба і зямлі...». «Добра — перарваў гэтым разам хлапец — сам кажаш, што Бог ёсьць усемагутны, дык чаму табе здаецца, што Ён ня можа быць у тым самым часе і на небе і на аўтары?!». Такі неспадзяваны адказ з вуснаў хлапчыны засароміў пратэстанцкіх баявікоў і адабраў у іх ахвоту перашкаджаць вучням маліцца. Моўчкам пратэстанты пакінулі каталіцкую сьвятыню.

Паводля **І. Дэгарба.**